НА ШАСНАЦЦАЦІ ПАЛОСАХ

Зь любоўю да ўлоньня

1996 №2

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

## ТУТ



Падлічка зьвяроў па парошы.



Фотарэпартаж-рэтра.



## ЛАД



"Я прагну ўжыць у гэтай сьціхоце..."

Урыўкі з кнігі.



## ЛЕС – ЛЁС

283 старонкі на пэргаманьце







## ЗАСЬЦЯРОГА

Добрае вока рэдкае

МР







Фота: Уладзімер Дацкевіч. Паяўнік

**Прырода, якая цярпліва зносіць чалавека, і чалавек, які цешыцца з прыроды, – гарацешная супярэчнасьць, што сталася знакам-перасьцярогаю прамысловага веку.**

Разьвіцьцё й прырода – антаганізм альбо сімбіёз? Ці можна запабегчы наступствы, зьменшыць немінучыя страты ў выніку экалагічнае катастрофы? На гэтыя ды іншыя пытаньні спрабуе адказаць наша газета. Запрашаем да гаворкі, а заадно кажам "дзякуй" усім, хто заўважыў наша выданьне.

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ, БО ЯНЫ ЖЫВУЦЬ...



Фота: Валянціна Сабалеўская. Кармушка для падкормкі дзікіх жывёл ("Царская")

## БЕЛАЯ ВЕЖА

Крыжаслоў. Конкурс ня толькі для эрудытаў.



## ДЗЕНЬ ЗЯМЛІ











*...гэты белы сьнег! Гэтая аблада бясконцае чысьціні й сьвежасьці, гэты асалодны гвалт нябёсаў, спасланы на нас ласкаю Божай — на нашую зямлю, на нашыя дрэвы й будынкі, на вакзалы й лясныя паляны, на цьвёрды бетон і гаючы мох, на нашыя камяні й магілы. О гэтая вечнасьць і гэтае імгненьне!*



*Газета выдаецца на ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук.*

*Для кантактаў: 220088 Менск, а/с 122*
*Тэл. (0172) 36-50-76*

*Published on the initiative of the Information Green Agency "Nerush-press"*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*

*Contact: 220088 Minsk, box 122*



# Сьляды на прасеках

## Падлічка зьвяроў па парошы — адметная зьява ў зімовай Пушчы



*З кнігі **Г.П.Карцава** "Беловежская пуща: ее исторический очерк, современное охотничье хозяйство и высочайшие охоты в пуще" (Санкт-Пецярбург, 1903).*

***П**ершы сьнег — што першая старонка спатканьне. Нясьпешна-блазёры і ўсхваляваны, іду скрозь засьнежаны "двор" Белавежскай Пушчы. Мае знаёмыя — лясныя жыхары — даўно апярэдзілі мяне, пакінулі на сьнезе сьляды, праклалі свае таемныя маршруты, толькі глядзі ды разгадвай, нібы крыжаванку. Што ні адбітак — то й сьведчаньне: лес прыціх, анямеў, але поўны сваёй жыцьцядзейнасьці.*

*Гэтым часам у Пушчы праходзіцца, прагледаецца кожная прасека, каб у кожным паасобным квартале паводле розьніцы сьлядоў на ўваходах і выхадах вызначыць колькасьць ахоўных жывёлаў, не наганяючы на іх ані страху, ані трывогі. Менавіта ў Белавежскай Пушчы й была апрабаваная ўпершыню адмысловая методыка падрахаваньня зьвяроў — два дні запар праводзілася падлічка, пры гэтым цалкам выключалася неабходнасьць рабіць стратныя прагоны дзікіх жывёлаў па кварталах. Дакладнасьць падрахаваньня сягала велічыні, блізкай да абсалютнай, а досьвед падрахоўнае працы прыдаўся не адно ў запаведніках, але шмат дзе яшчэ. Тым ня менш, час ад часу ўзьнікае патрэба вяртацца й да прагоннага метаду, каб зрабіць параўнаньне, суаднесьці вынік.*

*Для мяне квартал — як асобная старонка кнігі пра жыцьцё старажытнага лесу. І такіх, адметна-пранумараваных старонак роўна столькі, колькі значыцца ў Пушчы кварталаў, — 802. Вось якая яна, кніга Белавежскай Пушчы. Зімой на запаведных старонках зьяўляюцца новыя літары-знакі. Рукапіс штогод і штодзень зьначваецца, такі знаёмы і незнаёмы адначасова, але заўсёды нязьменны ў сваёй пушчанскай адметнасьці. Чалавек толькі пасьпявае перакладаць яго на сваю мову, спыняецца перад нечаканымі выразамі, разблытвае словы-загадкі. Зь якою мовай народаў сьвету параўнаеш мову роднай прыроды, мову Белавежскай Пушчы! Патрэбны веды і досьвед, каб пераклад быў дасканалы, спасьцігаў не адно факты, але гармонію навакольля.*

*Падрахаваньне лясных жыхароў па парошы — зьява адметная ў зімовай Пушчы. Яна несумненна дапаўняе малюнак тутэйшага жыцьця зь яго шматлікімі, прыкметнымі і менш прыкметнымі, клопатамі, часам, на пагляд збоку, нават крыху экзатычнымі.*

*Калі вы прыедзеце ў Пушчу і заўважыце сьляды на сьнезе, мажліва, успомніце і гэтую нямалаважную акалічнасьць — штогод у раньнюю зімовую пару на прыцярушаныя прасекі выходзяць спрактыкаваныя егеры-лаўцы, каб падлічыць зьвяроў — "братоў меншых" і вызначыць сваю адказнасьць за іхны род і лёс у гэтым сьвеце.*

Сьцяпан ШОСТАК,
ст. навуковы супрацоўнік Нацыянальнага парку "Белавежская пушча", кандыдат біялягічных навук.



**Д**зень падрахаваньня па парошы зьяўляецца ў Пушчы падзеяй. Да яго рыхтуюцца, яго чакаюць і ў пэўны момант усе заступаюць на свае мейсцы. Уся дача загадзя разьмеркаваная на дзялянкі, прыкладна 50 кварталаў кожная. Сваёй чаргой дзялянка дзеліцца на абходы, якія сягаюць памераў ад 4 да 8 кварталаў. У абходы рушаць 50 чалавек паляўнічай ды 150 чалавек лясной стражы. За імі назіраюць: обер-егеры, межнікі, таксатары ды іншыя чыноўнікі адміністрацыі. У перасечаных мясцовасьцях, заваленых ды парослых ельнікам, асабліва густалісьцевым лесе, дзе заўсёды больш дзічыны, абход даручаецца самым спрактыкаваным падрахоўнікам. Што да абходаў, яны ўстанаўліваюцца параўнальна невялікія. Па ўскраінах з рэдкім лесам раёны абходаў большыя. Лепшы момант для падлічкі наступае пасьля вялікага мокрага сьнегу, які дазваньня засьцілае старыя сьляды. На сухім сыпкім сьнезе сьлед невыразны і можа зьбіць нават практычных падрахоўнікаў. Раздачу кармоў у спрыяльны для падрахаваньня дзень прыпыняюць, і зьвер, які не знаходзіць нічога ў кармушках, рушыць на пошук. Тады, па сьвежай, мяккай пасьцілцы адбітак кожнага сьледу выразна-рэльефны, малюнкавы. Падрахоўнікі, наколькі гэта мажліва, ўзаемна сябе правяраюць. Калі адзін запіша на сваім бланку, якія адмыслова рыхтуюцца да гэтага дня, 30 на ўваходзе, а сусед па дзялянцы - 30 сьлядоў той жа пароды на выхадзе, значыць сумневу няма, што рухалася адна і тая ж колькасьць зьвяроў.



Падлічку пачынаюць гадзін зь 9-ці раніцы і рупяцца закончыць яе пакуль сьветла. Бланкі з рахубай па кожным абходзе здаюцца ва ўправу і там зводзяць суму гэтага аднадзённага перапісу. Беручы пад увагу, што ня ўсе зьвяры на ходу і што нямала іх застаецца ў межах кварталаў, а некаторыя пераходзяць у іншыя кварталы й вяртаюцца і гэтым зьбіваюць падрахоўнікаў, але найперш, мабыць, тое, што ня ўсе падрахоўнікі аднолькава сумленна ды ўмела адносяцца да сваіх абавязкаў, - вынік па парошы дае такія ж адносна правільныя лічбы, як і ўсе астатнія спосабы ўліку. Больш як хто сьледу наробяць козы. У даўніну такім чынам, па парошы, лічылі толькі зуброў, але з



*Фота:*

*Сяргей Вінярскі*
*Уладзімер Дацкевіч*
*Валянціна Сабалеўская*
*Аляксей Мацюш*
*Валерый Дранчук*
*З архіва Неруш-прэс*



1890 года пачалі падрахоўваць гэткім жа спосабам усіх зьвяроў, а з 1894 года, дзеля большай дакладнасьці і для адзнакі прыбытку ды спаду па часе года, гэта значыць колькасьці прыплоду і стратаў, падлік па парошы праводзіцца раз на год, а на вока - бесперапынна. Асабліва дзейна ідзе назіраньне зімою каля кармавых пунктаў, бо гэта патрэбна ня толькі для вызначэньня колькасьці зьвяровага насельніцтва Пушчы, але й для раўнамернага сутачнага разьмеркаваньня корму для кожнага пункта. Апроч таго, тут вызначаюць процант суадносінаў палоў па пародах і колькасьць прыплоду, які дажыў да гэтага часу. Любы егер праз два-тры тыдні, як надыходзіць кармавы перыяд, гледзячы якое надвор'е (ў адлігу зьвер да кармушак ня йдзе), можа досыць верна сказаць, колькі зьвяроў якога заводу корміцца каля пунктаў, за якімі ён сочыць. Правяраючы штодзень, прыканцы сезона егер такім чынам устанаўлівае даволі дакладную лічбу. Ацэнка зьвестак, што сьцякаюцца з кожнага пункта, і супастаўленьне гэтых зьвестак паміж сабою патрабуе вялікай практыкі з боку загадчыка паляўнічай гаспадаркі. Не апошнюю ролю мае тут, зразумела, асабісты досьвед.

Самымі дакладнымі атрымліваюцца зьвесткі пра зубра. У часе падлічкі на іх зьвернута галоўная ўвага, да таго ж і падрахаваць іх параўнальна лёгка. Выключаючы адзінцоў, якія таксама на ўліку, усе астатнія падыходзяць да кармушак і трымаюцца амаль увесь сезон у межах сваіх раёнаў. Лаўцы дэталёва могуць падлічыць: апошні прыплод, пярэзімкаў, двухлетак, кароў, быкоў, куртатых, са зьбітым рогам і г.д. і г.д. Словам, на зуброў можна заводзіць хоць пайменны сьпіс, калі б яны, як і астатнія зьвяры, не перакачоўвалі ад бяскорміцы ў суседнія з Пушчай лясы. ■

**Колькі якіх зьвяроў водзіцца ў Пушчы?**

| | 1991 | 1995 |
|---|---|---|
| Зубр | 320 | 290 |
| Лось | 104 | 53 |
| Алень | 1.620 | 1.653 |
| Дзік | 1.580 | 1.083 |
| Рысь | 21 | 24 |
| Казуля | 870 | 841 |

## SUMMARY

*The National Park "Bielovezhskaya Pushcha" is a unique place in Europe endowed with the status of a biospheric reserve. Virgin forests with rich flora and fauna are preserved here. The world-wide known Viskulievskiye Agreements were aiso signed here. The illustrations take the reader to the secluded corners of Pushcha, to feel the nature in the coldest season of the year. pp 2-3*

*The Editor-in-Chief thanks all the readers and hopes that the maturity of the following issues will make up for the search of the opening ones. p 4*



## Вякуе Пушча...

НА НАШЫХ ІЛЮСТРАЦЫЯХ:

*Кармушка для назіраньняў
*Пушчанская праseка
*Пасьля парошы. Зубры
*Чый сьлед?
*Проза жыцьця
*На лясной паляне
*Сьвежы вецер. Казуля
*Тарпаны





# О, вечнасьць імгненьня!..

## Кветкі зімы

**Людміла Дворак**
(*Нацыянальны парк, батанік*)

***Што рабіць батаніку ў зімовым лесе? Бадай што, няма чаго. Любавацца снежнай белізною? Ды як ні напружвай фантазію, якія адценні ды формы ні адшуквай, а максімум праз тры тыдні абрыдне гэта халодная бель. Часам здаецца, снег даходзіць да самага сэрца. Але так хочацца ў лес, паблукаць толькі табе знаёмымі сцежкамі. Можа, знойдуцца хоць абрывачкі, хоць асколачкі чароўнага, жывога, зялёнага, летняга? Зімовы лес. Застылі ў сне дрэвы такія вялікія, моцныя і такія безабаронныя, як спячыя дзеці. Маўчаць птушкі, замест плоймы кузурак мітусяцца ў паветры сняжынкі. Дзе ж вы, дарагія абрывачкі, асколачкі?***

### Пястушка

Пад густой ялінай, што апусціла долу зялёныя лапы, невялікае вочка ў снезе. А ў ім сярод апалых іглічак маленькая кіслічка. Два трайчастыя лісцікі складзеныя, чаранкі танюсенькія, а каля самай зямлі ружовыя карэньчыкі з маленькай пупышкай. Кволая, безабаронная ў зімовым лесе. Не, не безабаронная. Паміж каранёў пакінула яліна невялікае акенца ў свет, там яна гадуе і нікому не дае пакрыўдзіць малую кіслічку. Няхай пацешыцца, цікаўная, з зімовага карагоду сняжынак, паглядзіць на пакрытыя шэранем дрэвы. Нельга было адмовіць малой пястушцы, вось і засланіла яліна лапай кіслічку. Але мароз дужэе, холадам студзіць. Ну, паглядзела на белы свет і хопіць. Вунь усхадзіўся вецер. Нясе на Пушчу цяжкую снегавую хмару...

Адхіне на імгненне яліна лапу раз, другі і кіслічку да вясны прыкрые снегавая коўдра. Да самага цяпла будзе сніць пястушка дзівосны заснежаны лес, які ёй пашчасціла паглядзець з вакенца цёткі Яліны.

### Другое цвіценне

Сцяжынку пратапталі звяры. А прывяла яна да засыпанага снегам балотца. Атрымалася гожая палянка сярод лесу. І расцвілі на ёй дзівосныя кветкі. Толькі добра прыгледзеўшыся, пазнаеш: вось высокія карункавыя парасонікі дудніку, а гэта раскідзістыя чачухі, там пушыстыя мяцёлкі трыснягу. І ўсё цвіце: белыя іголачкі шэрані густа пакрылі кожную сцяблінку, кожную лусачку, кожнае зярнятка. Нібы зачараванае сваім харэством, стаіць не варухнецца старое аджыўшае бадылле. Нібы перажывае вяртанне белакіпеннай маладосці, сваё другое цвіценне. Так і хочацца паверыць, што зноў да балотных траў прыйшла пара кахання, што не сняжынкі, а пчолкі злятаюцца на палянку. Але вось чародка птушак рассыпалася па зачараваным лужку, паляцелі ў розныя бакі снежны пылок, лусачкі, насенне... Не, не бывае другога цвіцення. Сапраўднае толькі першае, адзінае, што надыходзіць у сваю пару.

Стыне на марозе, глуха шапоча няўклюднае бадылле на лясным балотцы.



Фота: Аляксандр Казулін

...І ЯСКАРКІ Ў ВАЧАХ

***Рэдкі здымак:** курапаткі, цесна зьбіўшыся ў кучку, разьмясьціліся ў сьнежным пухавіку на начоўку. Ці, можа, нейкімі згукамі навакольля іх патрывожыла ноч? А як не заўважыць такую дэталь: сьвятло "бялеючых сьнягоў" ня скрала ў вачах выразных кропачак-бліщынак... Можна адно гадаць-здагадвацца, якія варункі дапамаглі арнітолагу Аляксандру Казуліну зрабіць такі выдатны кадр — сапраўдны "трафей".*

## На лыжах па грыбы

**Радаслаў Гараднянскі**
(*"Белавежская пушча"*)

Вы толькі ўявіце сабе. Па мяккім студзеньскім сьнезе, агінаючы ельнікі ды страсаючы з дрэў пуховыя шапкі, вы на лыжах прабіраецеся ўглыб Пушчы. У заплечніку —кашоўка, зь якой летнім золкам хадзілі ў лес. І такі трапяткі спадзеў: вось-вось, здаецца, паглядзяць на вас з-за ствалоў сьветлатварыя апенькі. Вы падыходзіце бліжэй да пня ці ствала і, быццам расчыніўшы казачны халадзільнік, пачынаеце здымаць ураджай сьвежых дароў.



Фота: Павел Міхалевіч

Зімовая апенька

"Такое грыбное шчасьце можа напаткаць вас і ў Пушчы, і ў лесе, але часьцей — у парках, скверах, на вербах каля рэчак, — тлумачыць зьяву пушчанскі міколаг Павел Міхалевіч. — Гэта будуць насамрэч зімовыя грыбы. Вешанка асеньняя паяўляецца ў сьнежні, а калі мароз ня дужа цісьне — дык і ў пачатку студзеня. Гэтакі капыток ці вушацік цёмна-бурага альбо шэрага колеру. Заадзіжыла — ідзіце ў лес або ў парк, прыглядзьцеся — абавязкова пашчасьціць. Зімовая апенька — тая больш трывалая ды цярплівая. Мароз ёй ня так страшны. А як толькі сьцюжа зьляжа й пацягне адлігай — адразу ажывае, сьпяшаецца расьці. Гэта яе час. Ростам такая ж, як і яе летнія ды асеньнія суродзічкі. З выпуклай гладка-сьлізкай шапачкай бурштынавага колеру. Дарэчы, грыб лекавы, бо трымае ў сабе фламулін — сродак супраць саркомы..."

Спадар Міхалевіч ахвотна распавядае пра зімовыя эпізоды свайго багатага "грыбнога" досьведу. Дайце рады, колькі іх! Прыгадвае, напрыклад, як даказаў аднаму ўпартаму няверцу, што зварыць суп са сьвежых, зь лесу грыбочкаў можна й пад самы Новы год; адвінуўся ў Пушчу на колькі хвілін — і неўзабаве грыбы ўжо смажыліся на патэльні. У Музеі прыроды Нацыянальнага парку, дзе Павел Міхалевіч працуе дырэктарам, грыбная тэма, як і належыць, — адна з самых рэспектабельных і цікавых. Прыязджайце, паглядзіце. Калі ў вас тут зьявіцца сапраўдная, непадробная цікавасьць да Пушчы, яе прыгаства й таямніц, спадар Міхалевіч абавязкова пагодзіцца паказаць вам і калядныя грыбныя мясьціны.



## Яшчэ адзін крок

Ён насустрач. Табе, прыязны чытач, і табе, прыдзірлівы крытык. Дзякуй усім, хто газету купіў, пажадаў прачытаць. Хто нас ацаніў і даслаў віншаваньні. Хто падтрымаў і дарадзіў, у чымсьці перасьцярог і падказаў тэму.

Першы крок быў з доляй рызыкі. Далей хочацца ступаць на цьвёрды, істы грунт, адчуваць працоўны спор газетных палосаў, пульс чытацкага пачуцьця й інтэлекту. Спадзяюся, гэта ня станецца марнымі мроямі, а з кожным нумарам будзе ўвасабляцца ў наша аблічча, нашу хаду, нашу глебу.

Што ня ўсё магчыма адразу, зь першага нумару, памяркоўна прыняў і чытач. Водгукаў з "плюсам" намнога больш, чым водгукаў зь "мінусам". Чытачы ўхваляюць ідэю газеты, назву, кірунак. Ёсьць пажаданьні захаваць выгляд, дабор рубрык, беларускасьць. Так, так, і беларускасьць, перш-наперш мову. Праўда, тут пазначыліся й пэўныя разыходжаньні. Ніхто нам ня раіў перайсьці на "язык" вялікай дзяржавы, затое ня ўсе залагоджаны правапісам. Кажуць, такая мова састарэла, чытаецца цяжкавата. Відаць, нам жа й пашанцавала, бо апаненты пераважнай большасьцю выказваліся стрымана, дзесьці разумеючы нашу пазіцыю, якую яны ў рэшце згодныя паважаць, калі рэдакцыя да гэтага паставіцца прынцыпова. Дзякуй.

Мушу патлумачыць нашы "прынцыпы". Мне як заснавальніку й рэдактару газеты выпала немалая адказнасьць выбару. Шчыра кажучы, даўно захапляюся музыкай тае мовы, якая доўжыць мелодыю канчаткаў, пакідае ў словах мяккі знак ды самавіта "якае" перад націскам. Гэтая мова, лічу, — мова сапраўднае беларушчыны, у ёй чутны высокія ноты годнасьці й чалавечнасьці; воля й раскаванасьць складоў як бы нясуць дух незалежнасьці беларускай дзяржавы, нашы спрадвечныя парываньні.

Ёсьць яшчэ адна прычына, пра якую нельга не азвацца. Мы надалі моўнай палітры больш аўтэнтычны гукавы строй. Мяркую, ён цалкам пасуе зьместу, бо гаворка йдзе пра адпаведную мілагучную сьпеўнасьць нашых ваколіцаў, менавіта аўдыя-лад і самое Пушчы, дзе ўсё пераплялося: і пошах травы, і шум дрэва, і птушыны посьвіст, і рыканьне зуброў. Выкажу спадзяваньне, што людзям, якія любяць і чуюць нашу прыроду, захочацца мімаволі пераняць гэты моўны лад, прынамсі, з даверам паставіцца да пазіцыі газеты.



***Валерый ДРАНЧУК***

*44 гады. Радзіма — нясьвіжска-стаўпецкае памежжа, засьценак Габязна, заўлоньне рэчкі Габязьнянкі. Журналіст. Працаваў у газетах, вёў справы ў Вярхоўным Савеце й Савеце Міністраў. Сябра рэдкалегіі часопіса "Беларусь", заснавальнік Зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"*

Аднак за аўтарамі рэдакцыя пакідае права падаваць і друкаваць артыкулы ў тым правапісе, які ім больш даспадобы. Мы не зьбіраемся дэманстраваць тое, што можна было б назваць праявай нязломнасьці. Процістаяньне адно аднаму — зусім ня наша задача.

І яшчэ. Астралагічныя разьлікі паказваюць, што ў назве "Белавежская пушча" тоіцца адметны — і вельмі станоўчы — энэргетычны запас. Таму зычу ўсім прыемных зносінаў з нашай газетай і спадзяюся, як кажуць, на поўную ўзаемнасьць.

**Будзем жыць!**
**І няхай нам спрыяе.**

# Знак прысутнасьці, знак гармоніі

## Пад уражаньнем аднойчы ўбачанага

**Віталь Прошча**
*("Белавежская пушча")*

Тамара Стаганові, амерыканская мастачка беларускага паходжаньня, у кароткім тэлевізійным роспыце прызналася, што ёй вельмі падабаюцца вожыкі. Што гэтую мілую пацешную істоту — успамін яе далекаватага ўжо маленства — ня ўбачыш у Амерыцы. І ёй дужа карцела пабываць на Беларусі, сустрэцца з Бацькаўшчынай ды заадно пабачыцца з ... вожыкам.

Некалькі дзесяткаў жывапісных прац мастачкі, густоўна арганізаваных пад сьмелаю назвай "Амэрыка — мая Амэрыка", разьмясьціліся на знакамітых Галярэях Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.



Фотарэпрадукцыя: Вольга Вайніловіч

*Елаўстонскі нацыянальны парк. Бізоны ⩓ ⩔ Белавежская пушча. Зубры*



Фота: Віктар Ганчарэнка

> *Перад карцінаю можна доўга стаяць, разважаць і шмат чаго ўзгадваць.*
>
> *Можа, малюючы елаўстонскіх асілкаў, мастачка трымала на ўвазе і нашых, белавежскіх?*

Жаночае спасьціжэньне крыху суровае велічы прыроды. На палотнах — нябачным адбіткам — сьвятло спакойных і ўлюбёных вачэй. Праца руплівай рамантычнай душы.

А вось і любімы вожык мастачкі. Амаль што казачны персанаж, бо для кожнага з нас час маленства ўяўляецца казкай. Адчуваю, як цяплеюць перад гэтай карцінай сэрцы людзей, што прыйшлі сюды разам са мною.

Некалькі крокаў — і мы ўжо сам-насам з ландшафтам, загадкавай экзатычнай панарамай Амерыкі "Зубры ў Елаўстонскім нацыянальным парку. Штат Ваёмінг" — адно з самых, , з мой погляд, роздумна-велічных палотнаў Тамары Стаганові.

Чаму ж менавіта зубры, якіх там, дарэчы, называюць бізонамі? Можа, таму, што ў Беларусі ёсьць Белавежская пушча, і Тамара, малюючы елаўстонскіх асілкаў, трымала на ўвазе і нашых, белавежскіх?

Перад карцінаю можна доўга стаяць, разважаць і шмат чаго ўзгадваць. Чырвона-рудыя сьпіны фантастычных жывёлінаў, што вольна разбрыліся па зялёна-ружовай прасторы парка, — знак надзвычайнай іхнай прысутнасьці, іхнай гармоніі, іхнага павольнага руху — з стагоддзя ў стагоддзе.

"Будзем жыць, бо яны жывуць", — напісала ў вершы пра белавежскіх зуброў Ларыса Геніюш, нітуючы гэтак лёс прыроды і лёс беларускае нацыі. Тамара ж як бы рассунула рамкі вершаванага пастулата да неабсяжных памераў. І тым самым зблізіла два зямныя абшары, два сьветы, падзеленыя акіянам. Гледзячы на палатно, на панараму пейзажа, на ланцугі магутна-спакойных жывёлаў, думаеш міжволі пра адзіны зямны шлях, пра вярчэньне адной планеты, пра Іх і пра Нас. Выжываць трэба разам.

Словы мастачкі — нібыта малітва перад мальбертам: "Прырода заўжды была, ёсьць, ды заўжды будзе маім натхненьнем. Яна для мяне ёсьць рэлігія. Стаўленьне да прыроды, як да Боскае зьявы, абуджае духоўныя перажываньні і яднае маю душу зь Велічнасьцю Сьвету". ■


SUMMARY

***The author supplements the impressions from the art exhibition by the American painter of Belarusian origin Tamara Staganovitch with his meditations about the ways of survival for our civilisation and preserving the biological diversity of our planet. The illustrations strike the resemblance between two of the most unique places on Earth - the Yellowstone National Park in the USA and the National Park "Bielovezhskaya Pushcha".***


**БЕЛАСТОК — ГАРОДНЯ:**

# Рэкі, людзі, карэньні

*Кніжкі*, што выдадзены польскімі ды беларускімі прыродаахоўнымі службамі, можна сьмела параўнаць з сумесным узьвядзеньнем ачышчальных збудаваньняў, маючы на ўвазе сілу ўразуменьня і добрага ачышчальнага сэнсу, што здольныя засланіць сьвятыні ад бруду й навалачы. Тут ёсьць навуковы падыход, дэталёвае "вымярэньне" праблемных кропак зь іх лічбавай канкрэтыкай. Пры гэтым выклад матэрыялу даступны для кожнага. Абсяг мысьленьня аўтарскага калектыву дазволіў стварыць выразны й досыць панарамны малюнак сьвету (часам вельмі неспрыяльнага, але праўдзівага), у якім суіснуюць людзі і рэкі.*

*Заўважым, што рака Нараў цячэ праз Белавежскую пушчу, і яе стан адчувальна кранае ўсю дазваньня "каранёвую сістэму" сусьветнага рэзервату біясьферы.*

*На думку БП, кнігі паслужаць ня толькі прыкладам цярплівай ды ўніклівай супольнай працы, але й метадычным дапаможнікам для тых, хто мае ахвоту ці абавязак ахоўваць і вывучаць рэшткі нашай прыроды. Тым, хто пільна зацікавіцца выданьнямі, падказваем адрас і тэлефон, дзе іх можна спытаць: Гарадзенскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя; тэлефон 44–95–06 у Гародні.*

---

**Ацэнка якасці вод ракі Крынкі ў 1985 – 1994 гадах. Беласток – Гродна, 1995.*

*Ацэнка якасці вод ракі Нараў у пагранічным створы ў 1977 – 1993 гадах і якасці вады вадасховішча Семянувка ў 1991 – 1993 гадах. Беласток – Гродна, 1994.*

*Выдадзены ў Польшчы.*

# Мы прыйшлі да такога стану, што кампрамісаў ня можа быць



**Валерый Дранчук**
*("Белавежская пушча")*

*Зь Вячаславам Краўчэням мы сустрэліся на чытацкай канферэнцыі. Пасьля размовы, у якую Вячаслаў з імпэтам падкідваў "дроўцаў" (то былі пытаньні зацікаўленага чалавека), я вырашыў узяць рэванш: прызначыў яму сустрэчу для інтэрв'ю. Памятаю, Вячаслаў ахвотна згадзіўся "прадоўжыць размову", бо, мауляў, і напраўду шмат набалела. Мы разьвіталіся з умоваю: праз дзень я заеду ў ягоныя Івацэвічы й буду задаваць пытаньні яму, начальніку раённай інспекцыі аховы прыроды.*

**Перапісанае з дыктафона, гатовае інтэрв'ю праляжала ў шуфлядзе чатыры гады.**

**Ягоны зьмест, аднак, ня страціў актуальнасьці.**



*Вячаслаў Краўчэня.*

*40 гадоў. Родам зь вёскі Козікі Івацэвіцкага раёна. Скончыў інстытут у Берасьці. Інжынер-гідратэхнік. Пасьля ўдарнай камсамольскай будоўлі ды службы ў войску вярнуўся ў свой раён і пачаў працаваць інспектарам па экалогіі.*

**— Вячаслаў, дазволь мне усё ж вярнуцца і ўдакладніць. У той нашай размове ты сказаў, цытую: "Нас пазбавілі грунту, абарвалі карэньні?" Гэта нешта асабістае, з тваёй біяграфіі? Ці агульная дэкларацыя?**

— Асабістае тут найперш тое, што я, здавалася б, малады яшчэ чалавек, а ўжо мушу сказаць: і гэтага няма, і тое страчана, і гэта сышло ў нябыт... Успамінаю рачулку, дзе лавіў пескароў. Бярозавы гай, дуброву. Лясок быў за вёскай. Балотца, якое ня мог адолець... У рэшце рэшт, рэчкі няма гадоў дваццаць пяць. Высеклі й лясок той, і гай, і ўсё наогул кудысьці падзелася.

А калі б гэта было, захавалася — быў бы зусім іншы грунт. Было б адчуваньне, што жывеш ты на роднай зямлі, на сваёй Бацькаўшчыне. І тое, што пакінулі табе дзяды-прадзеды, павінен пакінуць і ты сваім нашчадкам. Карэньні абсеклі... Так, сапраўды. Прыязджаю дадому і не пазнаю ваколіцаў. Старэйшаму сыну 12 гадоў. Калі параўнаць асяроддзе, у якім расьлі мы, з тым, што сузірае пакаленьне за намі, дык гэта ўжо вялікая розьніца. Мяне цягнула да прыроды, гэта мой выток. Помню, якое-небудзь свята — усе аднавяскоўцы сем'ямі выходзілі да любімых мясьцін, на ўлоньне. Хто ў бярозавы гай, хто ў дуброву. Гуляньні былі. Людзі стасаваліся на прыродзе. Гэта было сапраўднае месца для душы, для сьвята. Сёньня гэтага няма. І не таму, што народ зрабіўся зусім абыякавы. А таму, што няма ўжо таго асяроддзя. Непрыкметна, з году ў год, яно зьнікала і ў рэшце рэшт зьнікла. Няма тае аўры. Ёсьць аграландшафт. І чалавек зьмірыўся: вось гэта яго лапік зямлі, сад, будынкі, а ўжо далей не яго, ці, як ён кажа, "не маё". Чужое. Сьмецьце куды вязуць? У бліжэйшыя кусты, у гаёк пры дарозе, у лясок...

**— О, гэта ўвогуле жудасны выклік — сьмецьце. Людзі губляюць апошні кантроль над сабою. Не адчуваюць заганы, граху. Ты маеш рацыю, Вячаслаў, — гэта ўжо відавочны вынік адчужанасьці ад сваіх ваколіцаў.**

— Раней бы чалавек гэтага не дазволіў сабе. Ніколі. Зьнячыўшы прыроду, ў рэшце рэшт ён зьнячыўся сам, зьмяніў сваю натуру. Ён валіць тое сьмецьце, не задумваючыся.

**— Я разумею, Вячаслаў, ты не самы галоўны стратэг экалагічнага адраджэньня. Палітыку партнёрства чалавека з прыродаю дыктуюць вам зьверху. Але хто вы тут — ваша інспекцыя? Хоць неяк можаце стрымліваць гэтую лаву, гэтыя камяні? Неяк зьмякчаць удары? Бо разумеючы, што ды як, ты ж хварэеш за лёс тутэйшага ўрочышча, лесу, рачулкі ці возера... Ці ёсьць у раёне які-кольвек механізм вашага ўплыву?**

— Ёсьць. Хоць, бадай, лепш сказаць, які б мусіў быць, бо той, што ёсьць, вельмі недастатковы, нязначны. Уявіце, вось вы — сам-насам з тэхналагічным наступам на пэўную дзялянку тэрыторыі. Дагэтуль ён, гэты ўчастак, быў незаняты, там зелянела трава, расьлі дрэвы і можа, нават, сьпявалі салаўі. Але! У нас няма стратэгічнай праграмы разьвіцьця, якая б уяўляла сабой узаемаўзгоднены зьвяз эканомікі з экалогіяй. Найлепш, калі б у кожным раёне была свая раённая экалагічная мапа, дзе старанна пазначаны ўсе дзялянкі, якія маюць экалагічную каштоўнасьць і ўплываюць на мікраклімат раёна. Зрабіць гэта зусім рэальна, здольныя сілы ёсьць. Зрабіць — і даць яе, гэтую мапу, куды належыць: у Дзяржплан, Дзяржкамітэт па экалогіі, у абласны камітэт. Часам мы падаём туды толькі інфармацыю пазнавальнага кшталту, маўляў, ёсьць такія дзялянкі, якія трэба захаваць. Прыкладам, тая ж рэчка Жыгулянка. Каля яе створаны пэўны экалагічны рэжым, ёсьць паселішчы баброў, расьліны-чырвонакніжніцы; зрэшты, каля кожнай рэчкі, асабліва ў глыбінцы ці недзе ў лясным масіве, можна без памылкі гарантаваць добры дзесятак каштоўных відаў флоры, калі сюды дыслакаваць экспедыцыю прафесіяналаў-батанікаў. Яны б катэгарычна адмовілі ўсялякім намерам "садзіць" там што б ні было — вытворчае прадпрыемства ці садовае таварыства. Але ўся гэтая наша пазнавальная інфармацыя на дзіва раскіданая і, за правіла, эпізадычная. Нарэшце, самае галоўнае — з намі ўзгадняюць аб'екты пэўнай, так скажам, магутнасьці. Да прыкладу, калі ферма — да тысячы галоваў, гэта значыць, на пэўны ўзровень спажываньня, скажам, вады ці іншых рэсурсаў. А ўжо далей — праз камітэты: абласны альбо Дзяржаўны. Яны ўжо там самі глядзяць, зыходзячы з так званае эканамічнай мэтазгоднасьці. Вядома ж, прэвалюе тут эканамічная выгода, дыктат патрэбаў. Так што механізм нашага мясцовага ўплыву досыць абмежаваны.

А вось калі б у нас былі мясцовыя мапы (як радыяцыйныя зараз) з усімі неабходнымі зьвесткамі — ўва што нам абыдзецца той альбо іншы аб'ект, калі мы зачэпім гэтую экалагічную нішу, прыкладам, нешта засохне, нешта зьнікне й гэтак далей, — усё было б, мяркую, інакш.



Ёсьць мапа! Вось тут няможна, бо побач бабры – ня лезь. Там гняздо чорнага бусла — ня руш. Далей дазваляецца, але з канкрэтнымі ўмовамі: радыюс ахоўнае зоны 300 метраў. Альбо — водаахоўная зона, блізка ня суньця. І ніякіх табе ўзгадненьняў, актаў праверак, кампрамісных рашэньняў... На жаль, такіх мапаў у нас няма.

**— Відаць, ёсьць выпадкі, за якія табе, Вечаслаў, і крыўдна і роспачна, аб якіх ты шкадуеш. Спрабаваў адстаяць, але ў рэшце рэшт...**

— Бабровіцкае возера. Унікальны прыродны комплекс. Паводле ягонага ўзроўню, можна меркаваць пра стан грунтавой вады ў раёне. За апошнія 10 гадоў ён апусьціўся на дзесяць сантыметраў. Гэта многа! Гэта сведчыць пра згубны ўплыў меліярацыі — па сантыметру скрадвала ў год. Асушэньне йдзе гіганцкімі тэмпамі. Плануецца здабыча сапрапеляў. Я гутарыў з навукоўцамі — яны супраць.

Уяўляеце, тысячы гадоў возера стаяла ў сваёй красе і велічы, а



Фота: Аляксандр Гутоўскі (Неруш-прэс)

SUMMARY

*In his interview, the head of a regional ecological inspection board gives many vivid examples of the pressure on nature in some remote corners of the republic, of the changes in landscape, how the forests grow scanty, the bogs dry up, how the environmental interests are sacrificed to the temporary industrial needs.*

тут, глядзіш, дзецям сваім ня будзе чаго пакінуць. Планамерна ваюем з прыродай. Я ўжо не кажу пра рэчкі, зь якімі так ніхто й ня лічыцца. Размаўляю неяк з інжынерам-меліяратарам, аўтарам "асушальнага" праекта. Слухай, кажу, вось рэчка. Якая табе розьніца — калі б ты сваю сістэму "прывязаў" да рэчкі такім чынам, каб рэчка засталася сама сабою, а ня так, каб ператваралася ў суцэльны канал. Ён кажа: прынцыпова ніякай розьніцы няма. Але палі непрыгожыя будуць... Што ты зробіш, ён бачыць хараство ў прамалінейнасьці, гэткай наўпростасьці: канал пасярэдзіне і роўненькія квадрацікі-масівы. І трактар будзе заварочвацца таксама квадрацікамі.

**— А што замінае ім, гэтым людзям, хай сабе сьвядомым прыхільнікам зьнішчальнай геаметрыі, прыняць вашу пазіцыю, калі на ёй вы, абаронцы "па абавязку" будзеце ўсё ж настойваць, дамагацца свайго?**

— Напэўна, яны пастаўлены ў такія рамкі, што ў іх на першым плане інтарэсы вытворчасьці, тэхналагічны разьлік. Мой апанент разумее, што для прыроды гэта "мінус", гэта страта, але яму, гаспадарніку, вытворчы інтарэс вышэй, трэба падпарадкоўвацца гаспадарцы. Мне, думае ён, трэба будаваць гэты цэх менавіта тут, бо побач вада, грошай меньш лясьне.

**— Дарэчы, адна з характэрных памылак — супрацьстаўляць ахову прыроды й інтарэсы гаспадаркі, эканамічныя выгоды. Дашчэнту выб'ем прыроду — з чаго ж эканоміку рабіць будзем? Дзе будзем браць сыравіну, чым сілкавацца?**

— Навучаны толькі браць ад прыроды, на ўсе нашыя "няможна" гаспадарнік глядзіць часцей за ўсё зьверху. Калі што — патрабуе паказаць закон, канкрэтны пункцік, які б яму штосьці забараняў. Бо ведае: цьвёрдых законаў няма. Часам з чалавечых пазіцый удаецца пераканаць хутчэй. Але гэта зрэдку, бо на гэтых людзей таксама ж ціснуць.

**— Дзе ж выйсьце?**

— Трэба як мага падтрымліваць раённыя інспекцыі. Часта мы ўвязваемся ў бойку, бачым праблему зьнізу, адстойваем пазіцыю, а яе сёньня ў Мінску падтрымліваюць, а заўтра, глядзіш, здаюць. Без падстаў, бяз бою, пад гвалтам мэтазгоднасьці. Гаспадарнік на гэта дужа зважае. Для яго ж зручны прэцэдэнт! А трэба, каб ён бачыў адну пазіцыю. Нельга — значыць нельга. Як шлагбаум, на які не пойдзеш. На то і пазіцыя, якую не пахіснеш. Ні ў абласным камітэце, ні ў рэспубліканскім. Я разумею, можна заўсёды знайсьці абгрунтаваньні, быццам бы й разумныя на гэты момант, на сёньняшні дзень. Але ж гэта толькі адзін бок медаля.

**— Ты супраць любых кампрамісаў?**

— Мы прыйшлі да такога стану, што кампрамісаў быць не павінна. Чым больш мы возьмем пад ахову, тым больш застанецца. У нас яшчэ, дзякаваць богу, нешта засталося. На справе ж так: сёньня маленькая ўступка, заўтра вялікая страта. І гэта ўжо не эпізод які-небудзь — гэта працэс.

**— Чым жа вы ўсё-такі моцнае, гаспадарства раённая інспекцыя?**

— Пазіцыяй прыродазаступніцтва. Пакуль няма добрых законаў, павінна быць пазіцыя. Экалогія — новы модны напрамак. Але адстойваць той ці іншы пункт гледжаньня можна толькі валодаючы пытаньнем. Неразуменьне з боку гаспадарнікаў патрабуе важкіх довадаў, глыбокага цярплівага аналізу. Пазіцыю трэба грунтаваць ведамі, праверанымі дадзенымі. А ў гэтым мы часам слабыя. Абгрунтаваньняў, бывае, вельмі не хапае. Дапусьцім, я ведаю, што гэты аб'ект будзе мець непрадказальныя наступствы. Але падстаў і глыбокіх навуковых высноў, разьлікаў пад рукамі няма.

**— Канкрэтна па якіх пытаньнях?**

— Ды хоць бы тыя ж ядахімікаты ў сельскай гаспадарцы. Ёсьць альтэрнатыўныя бясшкодныя тэхналогіі. Варта было б пачаць хоць у адной асобнай гаспадарцы. Паглядзець, што будзе. Не, ідэя адмятаецца. Значыць, не зацікавіў, не давёў.

Другое. Ахова атмасфернага паветра. Няма прыбораў. Значыць, няма падставаў, няма жорсткіх аргументаў. Зараз мы спрабуем стварыць малое прадпрыемства, якое будзе сачыць за якасьцю паветранага басейна. Рызыкоўна, але пачынаць трэба, у тым ліку з набыцьця прыборнае часткі. Нас вельмі падтрымлівае райвыканкам, асабіста старшыня Шышко. Людзі будуць зарабляць ад таго, колькі парушэньняў выяўлена, якія наступствы адхіленьня. Мяркую, зьявіцца дзейсны кантроль.

Нарэшце, лясная гаспадарка. Самі сякуць, самі ахоўваюць. Але я ня маю пра гэта ніякай інфармацыі. Нейкая дзяржава ў дзяржаве. Жывуць сваім жыцьцём. Можа, гэта й добра зь нейкага боку. Але я бачу суцэльныя высечкі. А павінен ведаць: чаму сякуць тут, а не там? І як гэта ўзаемаўвязана, наколькі бясьпечна? Бываюць і такія высечкі, што за галаву схопішся. Падросту ніякага, усё выбіта, вытаптана. Жахлівае становішча. Жывая рана на целе прыроды. Глядзіш, тут і птушкі ўжо не сьпяваюць, як пасля якой бамбардзіроўкі. Гэта ж разбой, а не ахова.

Ды й справаздачы ліпавыя. Згодна іхным паперам, у нас дзічыны больш чым дастаткова; калі я ў лес зайшоў, двух-трох зайцоў павінен убачыць абавязкова. А дзе яны? Усе пахаваліся?.. Справаздачнасьць робіцца пад іншыя мэты, камусьці больш выгадныя, чым селекцыя зайца, напрыклад. Ліпавыя паперы — ліпавыя грошы. Куды яны йдуць? І што ад гэтага перападзе прыродзе, лесу, таму ж зайцу... Думаеце, ніхто ня бачыць, ніхто пра гэта ня ведае? Якраз тое й бяда, што бачыць і ведае...

**1991**

**Брэст–Івацэвічы–Мінск**

> *"Узаемныя дачыненьні чалавека з планетаю былі не сімбіёзам партнэраў, а зьвязкам тасемніка-сапітэра з заражаным ім сабакам альбо мучністай расы зь яблыкам, на якім яна паразітуе."*
>
> О.Хаксьлі.
> "Малпа і сутнасьць".

CONTRA PUNCT

КАНТРА ПУНКТ



Фота: Уладзімер Бабоў

і ня ўбачыў ні разу птушкі, калі тая падавала голас. Амаль заўсёды, адчыняючы зімовым вечарам дзьверы, я чуў яе гулкае "вух-ух-ух-вух-ух-ух", дзе першыя тры склады гучалі падобна да "як вы там", а часам проста "вух-вух". Аднойчы, на пачатку зімы, калі сажалка яшчэ не замерзла, дзесь а дзевятай гадзіны вечара пачуўся гарласты гусіны крык, я падыйшоў да дзьвярэй і зразумеў, што над хатаю нізка пранеслася чарада гусей, узьнімаючы крыламі шум; магло здацца, што гэта ўсчыналася лясная бура. Яны праляцелі над сажалкай да Фейр-Хэвена, мабыць, сьвятло ў маім вакне напалохала іх, і яны ня селі, а важак безупынна трубіў. Раптам недзе зусім недалёка вушатая сава пачала адгуквацца на кожны гусіны зык самым пранізлівым голасам, які я чуў калі-небудзь ад лясных жыхароў, быццам вырашыла выкрыць і асароміць нязванага госьця з Гудзонавае затокі, паказаць, што гаспадары тутэйшых мясьцінаў маюць здатнасьць перакрычаць і прагнаць сваім вухканьнем з канкордскага гарызонта.

Я чуў таксама, як на сажалцы крактаў лёд — мой сусед, быццам яму было мулка ў пасьцелі й хацелася павярнуцца на другі бок, быццам яго турбавалі вятры ці нядобрыя сны. А яшчэ мяне будзіў начны гук, спрасоньня я мусіў запэўніцца, што гэта трэскалася зямля; здавалася, да дзьвярэй маіх пад'ехала запрэжка, а раніцаю ў зямлі віднелася расколіна на чвэрць мілі даўжынёю і на трэць дзюйма шырынёю.

Час ад часу я чуў лісіц, якія ў месячныя ночы палявалі па сьнежным шарпаку на курапатак ды іншую дзічыну; чуўся іхны адрывісты, дэманічны брэхат лясных сабак, і здавалася, што іх вярэдзіць якаясь трывога, ці позыў выказаць штосьці, вырвацца на сьвет, зрабіцца сапраўднымі псамі і бяз жаднага страху бегаць па вуліцах; хто ведае, можа, сярод жывёлаў таксама на працягу стагоддзяў ідзе працэс цывілізацыі? Мне яны падаліся нейкімі прымітыўнымі й сьляпымі чалавечымі істотамі, насьцярожанымі ў чаканьні пераўвасабленьня. Зрэдку якая-небудзь зь іх, завабленая сьвятлом, падыходзіла пад маё вакно, дзяўкала мне сваё лісінае пракляцьце ды хутка пакідала падворак.



На досьвітку мяне звычайна будзіла рыжая вавёрка (Sciurus Hudsonius), якая пачынала бегаць па даху і сьценах хаціны, быццам зь лесу яе знарок паслалі для гэтае справы. За зіму я выкідваў на сьнег перад дзьвярыма з паўбушэля кукурузных катахоў, якія аказаліся нясьпелымі, і пасьля зь цікавасьцю сачыў, як розныя жывёлы зварочвалі сюды

"Я прагнуў жыць у гэтай сьціхоце дзеля таго, каб спазнаць усю існасьць жыцьця".

на прынаду. Прыцемкамі і ўначы заўсёды сыходзіліся зайцы і з задавальненьнем, на радасьць сабе частаваліся. Днём зьяўляліся й зьнікалі рыжыя вавёркі, быццам прыбягалі пацешыць мяне сваімі манеўрамі...

Потым, бывала, з пранозьлівым крыкам, загадзя апавяшчаючы сваю прысутнасьць, зьлятаюцца сойкі. Яны асьцярожна перапырхваюць з дрэва на дрэва, падбіраюць зярніцы, скінутыя вавёркамі, нарэшце ўсаджваюцца на галіну смалістай сасны і стараюцца як мага праглынуць задужа буйныя для іх зярняты і давяцца імі; а потым ледзь вырыгаюць спажыву і доўга расколваюць ударамі дзюбы. Гэта былі яўныя зладзейкі, і я ня меў да іх пачуцьця павагі, а вось вавёркі, тыя, хоць і не адважваліся адразу, але частаваліся так, быццам гэта належала ім па праву. Налятаалі чароды чорнагаловых сініц; гэтыя таксама падбіралі за вавёркамі, сядалі на бліжэйшую галінку і, трымаючы калівы кіпцюрамі, стукалі па іх дзюбкай, быццам гэта былі кузуркі зь цьвёрдым панцырам, пакуль не разьбівалі іх на драбінкі, каб хутчэй пракаўтнуць. Чародка гэтых пташак прылятала штодзень паабедаць на маёй дроўніцы ці падабраць крошкі ля дзьвярэй, даносячы ледзь чутнае лепятаньне, падобнае на трымценьне ў траве ільдзінак, ці крыху жвавейшае "Дэй-дэй-дэй", а зрэдку, калі дні стаялі па-веснавому цёплыя, яны, як і ўлетку, кідалі зь лесу звонкае "фі-бі". Яны так асвойталіся, што адна неяк села на ахапак дроў, які я нёс, і бясстрашна пачала дзяўбці сучкі. Аднойчы, калі я працаваў грасоўкай у адным зь мястачковых садоў, мне на плячо сеў верабей, і я адчуў у гэтым больш высокую адзнаку, чым любыя эпалеты. Вавёркі ў рэшце рэшт таксама вельмі да мяне прывыклі і часам скакалі мне на чаравік, быццам гэта ім было акурат па дарозе.

На пачатку, пакуль зямля не схавалася цалкам пад сьнегам, а затым і на сконе зімы, калі паўднёвы скат агаляўся праталінамі й сьнег каля маіх дроў пачынаў раставаць, туды ўранку і вечарамі зьляталіся пакарміцца курапаткі. Куды б вы ні пакіравалі ў лесе, перад вамі шумна выпырхвае курапатка, закранаючы сухія сучкі й лісьце ды абтрасаючы зь іх сьнег, які пасьля хораша сеецца ў сонечных промнях, быццам залаты пыл, — таму што гэтая сьмелая птушка не баіцца зімы. Яе часьцяком замятае сьнегам, і кажуць, што яна "зь лёту зарываецца ў мяккі сумёт і хаваецца там дзень або два". Бывала, зьнячэўку зганяў іх і на адкрытым месцы, калі яны перад захадам сонца выляталі зь лесу падзяўбці пупышак на яблынях-дзічках. Штовечар яны зьбіраюцца каля аблюбаваных дрэў, і там падпільноўвае іх вопытны паляўнічы; ад іх немалая шкода прылесным садам. А мне дык вельмі ўцешна, як курапатка здабывае сабе корм. Гэта сапраўднае дзіця Прыроды, бо жыве з пупышкаў ды чыстай вады.

## Зіма на сажалцы

Яшчэ ў студзені, калі сьнег і лёд ляжаць тоўстым пластом, дбайны гаспадар прыходзіць зь вёскі ўзяць лёду на час летняе сьпёкі, для ахаладжэньня пітва; да чаго ж гэта мудра і дальнабачна — памятаць пра ліпеньскую гарачыню ды смагу менавіта цяпер, у студзені, калі на табе тоўстае паліто й рукавіцы! А паміж тым, мы ня робім запасу з шмат якіх рэчаў. Вось і ён, мабыць, не засобіць на зямлі нічога, што магло б прагнаць ягоную смагу на тым сьвеце. Пакуль зімовы мароз, ён коле й пілуе на сажалцы лёд, расчыняе над рыбамі дах і адвозіць іхную родную стыхію, паветра, якім яны дыхаюць, перавязаўшы гэты скарб вяроўкамі, быццам дровы, у халодныя склепы, дзе лёд пралежыць да лета. Калі лёд вязуць па вуліцы, ён здаля выдае зь сябе зацьвярдзелы блакіт. Людзі, што колюць лёд, — вясёлы народ, любяць пасьмяяцца й пажартаваць; калі я зьяўляўся сярод іх, яны прапаноўвалі мне пілаваць разам зь імі, але з тою ўмоваю, каб я стаяў зьнізу.



*Ілюстрацыя-застаўка з кнігі Тора "Уолдэн,альбо Жыцьцё ў лесе" ("Наука",Масква,1980).*

Уолдэнскі лёд, як і вада, зблізку мае зялёнае адценьне, зводдаль жа выглядае цудоўна блакітным, і вы лёгка распазнаяце яго побач зь белым рачным ільдом ці зелянцавым ільдом зь іншых сажалак, што разьмешчаны ў якой-небудзь чвэрці мілі ад яго і доўга ляжыць сярод вуліцы, быццам гіганцкі смарагд, прыцягваючы ўвагу прахожых. Я заўважыў, што кавалак Уолдэна, які ў вадкім стане здаваўся зялёным, з той жа адлегласьці падаецца блакітным, калі замярзае. Іншы раз ямкі на беразе сажалкі запаўняюцца зелянцавай вадою, а на другі дзень яны ўжо робяцца блакітным ільдом. Магчыма, блакітны колер вады й лёду ад утрыманьня ў іх сьвятла й паветра; самы празрысты й будзе самым блакітным. Лёд — цікавая рэч для назіраньняў. Гавораць, што на Сьвежай сажалцы ў некаторых складах лёд цудоўна захоўваецца па пяць гадоў. Чаму вядро вады так хутка загнівае, а ў замарожаным стане назаўсёды захоўвае сьвежасьць? Прынята лічыць, што гэтым жа розьняцца гарачыя пачуцьці ад розуму.

*Разьдзелы з кнігі падаюцца скарочанымі часткамі.

**Маецца на ўвазе канкрэтная асоба.

***Драўляная ці касьцяная палачка, якою гралі на струнах ліры.

****У значэньні: мясцовая мова (з лацінскай).

## SUMMARY

The readers who have not yet discovered Henry David Thoreau may enjoy some extracts - the so-called "winter" ones - from his famous book "Walden, or Life in the Woods".

*Адольф Мушг (Швэйцарыя):*

# “Перадаю рукапісную кнігу пра лес”...

**Гэты ўчынак, бадай, ня ўпісваецца ў звыклыя рамкі. 120 швэйцарскіх пісьменнікаў, якім не абыякавы лёс прыроды, стварылі невялікія творы на адну тэму — пра лес і ягоную каштоўнасьць для чалавека. Калі добраахвотнікі-перапісчыкі ўсё гэта цярпліва перанесьлі на пэргамантныя старонкі, апошніх атрымалася 283 — факт узьнікненьня рукапіснае Кнігі быў больш як відочны. Кніга, паводле задумы, ня ёсьць і ня можа быць прыдатнаю для якіх-кольвек кнігараспродажаў: існаваньне ў адным паасобніку**



Фота: Валерый Дранчук (Неруш-прэс)

**роднiць яе з самім лесам, нашым жыцьцём, кожным імгненьнем. Пісьменьнікі перадалі ўнікальную Кнігу маладым сябрам лясной суполкі. На цырымоніі перадачы выступіў пісьменьнік Адольф Мушг. Ягонае мудрае афарыстычнае слова вытлумачвае сэнс грамадзянскай ініцыятывы, служыць нам, адрасатам пасланьня, ня ўскоснай перасьцярогаю, але падставай да дзеяньня. Бо мы, беларусы, як мала хто дазваляем “цярпець чужых нам судзьдзяў” замест таго, каб “пачаць адчуваць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі”.**

Я перадаю вам рукапісную кнігу пра лес. 120 аўтараў напісалі пра лес, а потым іх тэксты былі як сьлед перапісаныя на сярэднявяковы пэргамант. Дзеля чаго?

Хіба ўжо нічога не застаецца апроч таго, як пісаць на стары лад, бо анічога новага не прыходзіць у галаву, калі мы думаем пра выміраньне лесу? Ці не падмяняем мы каліграфіяй неабходныя дзеяньні?

Я расцэньваю стварэньне рукапіснай кнігі пра лес як сымбалічны акт. Тут важна ня толькі што, але й як. Я ня буду пярэчыць таму, хто скажа мне: “Трэба моцна расчаравацца, каб заместа ўчынкаў ствараць сымболі”. Так, нас кідае ў роспач адсутнасьць правільнага сэнсу ў нашых палітыках, блытаніна, якая пануе ў іхных галовах, калі яны думаюць аб прыярытэтах, няздольнасьць нашай сістэмы браць урокі там, дзе гэта можна. Мы расчараваліся ад галоўных канфліктаў нашай цывілізацыі, але з усёй сумленнасьцю мусім прызнаць: ад супярэчнасьцяў у нас саміх — таксама.

Рукапісная кніга пра лес — гэта сымбалічная спроба даказаць нашу волю да пераменаў, даказаць яе тым, што ў гэтай невялікай справе мы дзейнічаем зусім інакш, чым прынята. Праца, пакладзеная на кнігу, не вымяраецца грашыма. Аўтары мелі зь яе гэтак жа мала, што й перапісчыкі. З рынкавага пункту погляду рукапісная кніга ёсьць рарытэт, прадмет раскошы. Але як акт сумеснае дружнае працы, яна мае зь сябе штосьці зусім інакшае: прыклад пазаэканамічных адносінаў. Мы ня можам купіць лес за грошы, гэтак жа як ня можам купіць гэтую кнігу. Можа так здарыцца, што мы зразумеем тое, калі ўжо лесу ня будзе. Тады і нашае ўласнае выжываньне зробіцца немагчымае.

Гэтая рукапісная кніга не прадаецца — як напамінак, што мы прадаём саміх сябе, разглядаючы лес выключна з эканамічнага боку.

Гэтая рукапісная кніга — спроба так зыначыць прывычкі нашага жыцьця, каб надзеі, што чапляцца ў нашых дзецях, не пайшлі пылам.

Гэтая кніга йснуе толькі ў адным паасобніку. Гэта родніць яе зь лесам, з жыцьцём кожнага з нас, з кожным імгненьнем...

Рукапісная кніга заўсёды ствараецца дзеля таго, каб зьдзейсьніць нешта цудоўнае ды незвычайнае. Але хіба само наша жыцьцё ня мае гэта за мэту? Словы, якія стаяць на гэтых старонках, узьніклі таму, што кожны аўтар адчуваў неабходнасьць выказацца пра лес. Але ў прыгожым почырку не было неабходнасьці. Ён — знак таго, што не адно неабходнасьць вызначае наша жыцьцё. Сэнс жыцьця — гэта ня колазварот спраў. Сэнс жыцьця мусіць быць узяты пад абарону, каб марнасьць і сьпешаніна не забілі яго гэткім жа самым чынам, як тое адбываецца зь лесам.

*Жывеш і бачыш, як з кожным годам усё больш прагалаў ды пустак, ды глыбокіх каляін, ды скінутага сьмецьця ў родным лесе...*



Фота: Валерый Дранчук (Неруш-прэс)

Гэтая рукапісная кніга — плён цярпеньня. Лес рос, падымаўся з пакаленьня ў пакаленьне; цяпер ён можа зьнікнуць з твару Зямлі на працягу аднаго пакаленьня. Ёсьць вялікая спакуса неадкладна хутка адрэагаваць на той цэйтнот, у якім мы знаходзімся. Але мы абавязаныя ўсьвядоміць, што адсутнасьць часу — частка нашых праблемаў. Нам ня так багата адпушчана, і менавіта таму патрабуецца шмат цярпеньня. Бо цярпеньне — гэта адзіны спосаб па-чалавечы абыходзіцца з часам. Яно – супрацьлегласьць бездапаможнасьці. Яно — наш першы ўчынак. Яно азначае, што мы разумеем лес не адно розумам, але й пачуцьцём.

Даліна Уры спакон веку жыла тым, што была транзітнай дарогай для падарожнікаў. Цяпер даліне пагражае сьмерць ад транзіту. Уры стала кавалкам зямлі, які хочуць пакінуць за сьпінай хутчэй, чым сюды ўзьедуць. Шаша тут — сымптом, а не прычына. Па шашы едуць людзі, якія вераць, што сапраўднае жыцьцё пачынаецца толькі ў канцы дарогі і што няма максімальнага прыбытку без максімальнага выдатку часу. Але гэта ілюзія. Хто развучыўся распазнаваць свае шляхі, таму ўжо не дапамогуць ніякія мэты, і той ня здолее скарыстаць на карысьць сабе свой выйгрыш. Вакол шашы раскінулася “паласа адчужэньня”; мейсца, дзе раней падарожніка чакалі спакой ды спачын, зрабілася суцэльным дэфектам. Той, хто гэтак ставіцца да сваіх дарог, не павінен зьдзіўляцца, калі ландшафт зморшчыцца й скане — ландшафт не адно прастора, але й душы.

Гэтая рукапісная кніга не прызначаная для публікацыі ў традыцыйным парадку. Яна — спроба быць пачутым не таму, што крычыш галасьней за ўсіх, а таму, што не крычыш увогуле.

Гэтая рукапісная кніга — ціхая, і яна — пратэст супраць балбатні. Яна ня будзе выстаўленая ані на водным кніжным кірмашы. Яна — зварот да маладых сяброў суполкі. Тое, што яна мусіць сказаць, яна стараецца перадаць праз спосаб, якім была зробленая.

Гэтая рукапісная кніга — настальгічны твор. Настальгія — гэтае слова мы разумеем як “пакутлівае вяртаньне”. Але вяртаньне, якое мы разумеем, кіруе ў будучыню. Калі мы хочам, каб будучыня спраўдзілася, мы зноўку мусім пачаць адчуваць сябе гаспадарамі на зямлі. І лес тут мае значэньне не як зялёнае алібі нашых добрых намераў, не як куліса для падарожнікаў, не як “зона адпачынку”, але як Лес са сваімі патрабаваньнямі, якія цесна пераплецены з нашымі.

Тут, у лясной суполцы Рутлі, кожны ведае, што, кажучы пра

 



Фота: Аляксей Мацюш



лес, мы перш-наперш маем на ўвазе самі сябе. Цяпер акурат такі час, каб пакінуць гаварыць пра "навакольнае асяродзьдзе" так, быццам мы самі яму не належым; быццам выміраньне лесу — відовішча для публікі, а экалогія — справа экспертаў. Гэта ж наша разуменьне росту і развіцьця не дае магчымасьці расьці і разьвівацца дрэвам! Прычыны, з-за якіх памірае лес, месьцяцца ў нас саміх. Газ, што зрабіўся невыносны для лесу, найперш выдумляецца ў нашых галовах, а ўжо затым цячэ з трубаў у неба.

Рукапісная кніга пра лес — гэта перш-наперш скарга на нас саміх. Але ў сьвеце няма больш нікога, хто пачуў бы гэтую скаргу і дапамог, — толькі мы. Тое, чаго мы ня зробім, ня зробіцца і ня зьдзейсьніцца.

Рукапісная кніга пра лес — абвяшчэньне вайны нашай зручнай мане, кароткаму дыханьню нашых прывычак. Мы самі вінаватыя, калі дазваляем цярпець чужых нам судзьдзяў — ад "валавога



нацыянальнага прадукта" да "максімальнага ўзроўню прыбыткаў". Калі размова ідзе пра лес, дык пакуль што яна ідзе пераважна пра "падрахункі акупнасьці й кошту". Так думаюць тыя, каму давяраем мы нашае жыцьцё, пакідаючы ім пасты кіраваньня ды надаючы грамадскую пашану.

Гэтая рукапісная кніга — ліст да ўсіх кантонаў Швэйцарыі. Мы клянёмся падняцца на абарону лесу, таму што ён той сук, на якім мы сядзім.

Гэтая рукапісная кніга — позва свабоды. Поле нашай свабоды звузілася. Мы ня можам сабе абяцаць, што ўратуем лес. Але мы яшчэ дастаткова свабодныя, каб гэтую спробу зрабіць. Мы ведаем: гэта будзе глава ў гісторыі Швэйцарыі дарагім коштам. Каб выбавіць лес, патрэбны грошы. Але хіба наша будучыня ня вартая ўсіх грошай, не даражэйшая за іх?

700 гадоў таму Рутлі быў востравам, які людзі стварылі ў зялёнай пустыні. Сёньня ўсё перамянілася ў сьвеце: нашы лясы — гэта зьнікаючыя выспы-атокі ў пустыні цывілізацыі.

Нашыя продкі бралі да ўвагі, што лес, які пагражае іхным пасялішчам, адначасна іх жа й ахоўвае. Адно з найвялікшых іхных культурных дасягненьняў заключалася ў тым, што яны зразумелі: "Тое, што ахоўвае нас, мусіць і само быць надзейна ахаванае". І ўсё больш і больш барацьба зь лесам станавілася барацьбой за лес. Адначасна гэта была барацьба за пачуцьцё раўнавагі, якое трэба чалавеку, калі ён зьяўляецца часткай прыроды. Няўжо мы страцілі гэтае пачуцьцё?

Дрэвы зрабіліся меншасьцю, якому пагражае выміраньне. Швэйцарыя заўсёды ганарылася тым, што бярэцца абараняць меншасьць. Але тут гаворка ідзе не адно пра наш гонар. Ад лесу залежыць, ці не задыхнёмся мы на нашым шляху да прагрэсу. І гэта — ня вобраз. Расьліны жывуць таму, што могуць удыхаць тое, што мы выдыхаем. Мы жывём таму, што можам удыхаць тое, што выдыхаюць яны.

Калі мы ў рэшце рэшт, жадаючы забясьпечыць зносіны праз перавал, падымемся туды з кіслароднаю маскай на твары і заменім апошняе дрэва на бетонную канструкцыю — ці не

*Лес — клапатлівы нястомны бацька. Жывіць вадою рэкі, бароніць палі ад вятроў-сухавеяў, зьмякчае клімат, надае краявідам задумлівай велічы і красы.*

*Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік. 1996.*



> *"Рукапісная Кніга пра лес — абвяшчэньне вайны нашай зручнай мане, кароткаму дыханьню нашых прывычак".*
>
> *"Прычыны, з-за якіх памірае лес, месьцяцца ў нас саміх".*
>
> *"Мы ня можам сабе абяцаць, што ўратуем лес. Але мы яшчэ досьць свабодныя, каб спробу такую зрабіць".*
>
> Адольф МУШГ

здарыцца так, што гэтая перадача будзе ўжо нікому непатрэбная. Камунікацыя знойдзе новы шлях. Стварыць ілюзорную паездку ў Альпы ў якім-небудзь сімулятары — гэта ня ёсьць тэхнічнай праблемаю. Лясы, якія трэба адзьняць на відэякасэты для стварэньня падобных ілюзіяў, будуць стаяць яшчэ даволі доўга. Выміраньне не адбываецца ў адзін дзень.

Пасьпяховая замена прыроды малюнкамі прыроды пачалася ўжо даўно. Ці ня дурым мы гэтакім чынам самі сябе? Можа й так. Колькі месяцаў таму, напрыклад, адна суполка адмовілася браць удзел у гэтай гульні, мэта якой — замяніць Швэйцарыю малюнкамі Швэйцарыі.

Людзі ня хочуць быць эвакуяванымі зь іхнай рэальнасьці.

Як цяжка супрацьпаставіць надзею роспачы — пра гэта гаворыць прыклад аўтараў рукапіснай кнігі й яе перапісчыкаў.

Пэргамант — матар'ял трывалы. Нам патрэбна трывалая надзея. Мы хочам, каб і праз 700 гадоў можна было прачытаць пра тое, на што мы спадзяваліся й чаго баяліся сёньня.

У лепшым выпадку людзі пасьміюцца з нашых турботаў. І гэта будзе значыць: нашая роспач і нашыя спадзяваньні ня скончыліся марна. Яны паўплывалі, яны нешта зьначылі.

У горшым выпадку праз 700 гадоў ніхто ня зможа сказаць, што мы нічога ня ведалі, што ніхто нічога ня бачыў. Наша рукапісная кніга будзе сьведчаньнем супраць нашае нявіннасьці.

У найгоршым выпадку: пэргамант ператворыцца ў арганічнае ўгнаеньне. Ён мала чым зможа дапамагчы нашай мёртвай планеце. Хіба што зробіцца першай прыгаршчай зямлі для першага парастка імху — піянера новага жыцьця.

Але гэтае новае жыцьцё мы з большым задавальненьнем пачалі б раней, а менавіта — цяпер.

Такое нецярпеньне мусіць быць уважанае. Дзеля будучыні мы, адпасыльнікі, перадаём гэтую трывалую і цярплівую рукапісную кнігу нам, адрасатам.

## SUMMARY

***The newspaper's dossier is represented by the public statement of Adolf Mushga (Switzerland) at the ceremony of presenting his Manuscript about forest - a unique 283-page edition written on parchment - to the Forest Community.***



 

# ЗАСЬЦЯРОГА WARNING

## Спакон веку беларусы ратавалі лес. Ці ўратуем ягоныя рэшткі?

*Валерый Дранчук*

### Зь дзёньніка

*Ліпень — 92.* Каторую раніцу прачынаюся з прадчуваньнем трывогі і скрухі. Ня цешаць ні ласкавыя промні з усходу, ні дрэвы ў порсткай лістоце, ні мурава ў бурштынавых кроплях, ані халодненькі ўтупаны дол сьцяжынкі, асалодна адчувальны пад босымі нагамі. Ндобрае штосьці тоіцца ў гэтай амярцьвелай цішыні. Пагрозьліва павявае вецер, зьліваючыся з дыханьнем горада. Быццам далятае гул палаючага лесу. Уяўляю, як недзе ў далёкіх і блізкіх кутках Беларусі агонь спапяляе наша багацьце, наш лес, да якога ў кожнага беларуса шмат удзячных пачуцьцяў.

*Студзень — 93.* Бярuся сьцьвярджаць, што лясныя пажары мінулага лета яшчэ не патушаныя. Бо дагэтуль ні ахоўна-кантралюючыя ведамствы, ні ўрад, ні Вярхоўны Савет не сказалі народу пра маштабы бедства, пра ўчынены ўрон, пра ўрокі, якія трэба зрабіць. У чым пераканалі нас лясныя пажары, дык гэта ў тым, што дзяржаве было напляваць на прыроднае і сыравіннае багацьце, якое больш як два месяцы (!) запар (!) палала на плошчы ў шэсьць тысяч гектараў (!). Згарэла ледзь ня ўсё, што магло згарэць. Стыхіі і волі агню аддадзена столькі, колькі можа дазволіць сабе хіба што цалкам дэмаралізаванае грамадзтва... Яшчэ амаль фізічна адчуваю горкі дым, які на працягу тыдняў не адступаў ад адчыненых фортак гарадзкіх люфцікаў.

### Як я запісаўся ў пажарнікі

Гэта раней, бывала, загарыцца — уся вёска бяжыць ратаваць, тушыць лес. Цяпер жа, бадай, няма каму бегчы. Людзей на вёсках мала, пераважна старыя, нямоглыя. Дый псіхалогія пакалечаная: "Гарыць? А на тое й лясьнік, каб тушыць..."

Сьлякотным летам 93-га зноў гарэлі нашы лясы. Я жыў у вёсцы. Штодзень то ў адным, то ў другім баку над лесам паяўляўся слабы слупок дыму — ён або хутка драбнеў і зьнікаў зусім, або клубіўся воблакам і ўжо рабілася зразумела: гэта пажар, гарыць не адна і ня дзьве соткі лесу. На адзін яшчэ ледзь бачны струменьчык дыму я выправіўся ў якасьці "пажарнай каманды". Няроўная лінія агню — метраў зь пятнаццаць — сям-там успыхвала яркімі язычкамі і рухалася ў бок дробнага густога ельніку. Гарэў пераважна іглічны посьціл. Я паспрабаваў затаптаць найбольш імклівыя ачажкі і адчуў поўную марнасьць сваіх намераў. Агонь мяне апярэджваў. Да ельніку заставалася 6-8 метраў. Я не заўважыў, як апантана ўключыўся ў барацьбу. У руках ужо быў добры кій, я да чорнага попелу матлашыў ім ахопленую гарачымі язычкамі зямлю, але пачаў заўважаць, што на тых жа месцах агонь ажывае зноў ды зноў. Я скінуў кашулю. Пот заліваў вочы. Здалося, зьбітае полымя нарэшце скарылася. Толькі слаўся раздражнёны мляві дымок. Да ельніку было метры два і трэба было яшчэ прасачыць, каб не ўсчалося гарэць наноў. Глыбіня лесу, зьлёгку зацягнутая дымнай фіранкай, сьвяцілася ў сонцы яркімі зялёнымі плямкамі. Адтуль дыхала жаданым халадком і сьвежасьцю.



Фота: Анатоль Кляшчук (Неруш-прэс)

### Хроніка страт

| | колькасьць пажараў (у % — па віне насельніцтва) | ахоплена агнём (гектараў леснай плошчы) |
|---|---|---|
| 1991 | 1.517 (85%) | 310 |
| 1992 | 8.121 (54%) | 25.683 |
| 1993 | 1.887 (44%) | 1.617 |
| 1994 | 3.052 (58%) | 2.469 |
| 1995 | 3.257 (60%) | 5.645 |

Крыніца: Міністэрства лясной гаспадаркі



Фота: Валерый Дранчук (Неруш-прэс)

Тая гадзіна (я не заўважыў, што раптам прабавіўся цэлую гадзіну) запомнілася мне каварным напорам агню, які яшчэ ледзьве пасьпеў нарадзіцца. Я ня ведаў, адкуль ён узьнік. Было за поўдзень, людзі ў гэты час вяртаюцца зь лесу дамоў. Кінутая запалка? Непатушаны акурак?... У кожным выпадку — іскрынка нашага раўнадушша і нашага бяспамяцтва. Але расказвалі, бывалі выпадкі, калі падпальвалі лес і з-за помсты лясьніку.

Тым жа летам я меў радасьць пераканацца: дзеці ня толькі сваволяць у лесе з агнём, але й дружна тушаць, ратуюць лес, калі ў гэтым бывае патрэба.



Фота: Аляксандр Беразняк (Неруш-прэс)

Новы часопіс для геаграфаў, краязнаўцаў і турыстаў ПАДАРОЖНІК Адрас: 220072 Мінск, вул.Скарыны, 1/130, тэл. 31-49-72



## Традыцыйнае варварства

Сьпякота, якая ўсталёўваецца часам ужо ў красавіку-траўні, пагражае ўзьнікненьнем першых лясных пажараў. Прафесіяналы-адмыслоўцы зь вялікай апаскай глядзяць у гэты час на масавыя падвальваньні сухой травы, што чыняцца мясцовым насельніцтвам — пераважна непаўналетнімі аматарамі пазабаўляцца з запалкамі ды неразумнымі гаспадарамі, якія ўпарадкаваньне тэрыторыі давяраюць агню.

На "чорны яблык" выпальваюцца ахоўныя палосы пры дарогах, узьлескі, адхоны, ўзгоркі... Нішчыцца мікрафлора і мікрафаўна, гінуць дрэвы, шкодным дымам засьцілаюцца далягляды, прыкметна пагаршаецца экалогія асяроддзя. Аднак спробы зьменшыць маштабы варварства, якое зрабілася традыцыйным і непазьбежным, выкліканы перш-наперш погрозай адчувальных страт лясной гаспадаркі.

## Нацыянальнае багацце — ў межах суверэннай краіны

Каб запабегчы, мінімізаваць спустошваньне нацыянальнага багацьця, ў паветра ўзьнімаюцца верталёты авіяцыйнай лясной аховы. Негледзячы на вельмі дарагую лётную годзіну, гэтая служба крылаў ня склала. Прыкладна 65 адсоткаў усіх загараньняў выяўляецца на пачатку; там, дзе агонь пасьпеў набраць сілу, апаратыўна высаджваецца дэсант. Сёньня дэсантнік лясной авіяахові, між іншым, — гэта чалавек да 30 гадоў, добра падрыхтаваны і абучаны. Апрача школы лятаць, прайшоў і "зямную" навуку — ён яшчэ інжынер лесу.

Мазыр, Гомель, Магілеў, Пінск, Ганцавічы, Салігорск, Маладзечна, Берасьце, Полацак. Дзевяць кропак на карце — дзевяць (з дванаццаці) авіягруп, якія апекаваліся тэрыторыямі з найбольшым радыеактыўным забруджаньнем. Паводле зьвестак экспертаў, радыеактыўнасьць у эпіцэнтры пажару ўзрастае ў 10-15 разоў. Узняты ў паветра бруд разносіцца далёка. Дзе і чым адгукнецца, можна толькі меркаваць-здагадвацца.

Якім бы жорсткім ня быў імператыў эканоміі, кошт лётнай гадзіны вымагае асаблівага вымярэньня: беларускаму лесу наканавана шумець, а багацьці суверэннай дзяржавы вызначаюцца яе межамі ды нашымі адносінамі да адвечнай зялёнай спадчыны.

■



### ПАКІНЕМ ЗАПАЛКІ ДОМА

Шмат хто мяркуе, што на месцах выгарання сухой травы вырастае лепшая зеляніна. Гэта не так, вынік спусташальны. Збядняецца раслінны покрыў, глеба губляе шмат гумусу. Датла выгараюць гнёзды птушак, матылёў, мошак. У агні гіне жывое. Дым атручвае наваколле. Чорныя плямы выгарын траўміруюць душы людзей. А с ц е р а ж о м с я! Задумаемся: ці варта ставіць "падножкі" прыродзе, калі ёй і так цяжка? Успомнім: лясныя пажары пачыналіся з вясновых загаранняў.

Пакінем! запалкі! дома!

Зялёнае агенцтва "Неруш-прэс"

### SUMMARY

*The topic of forest preservation is further developed in the articles published under the title "For Centuries Belarusians Have Protected Forests. Will We Be Able to Save What's Survived?" The articles address the issue of forest fires, their moral aspects and list stunning statistics. The "Let's leave matches at home!" poster appeal warns of the harm and danger of the traditional spring fires. pp 12-13*

*Мікалай Рэрых*

# Вока добрае

*Добрае вока рэдкае. Ліхое вока ў кожным доме знойдзецца.*

*Мне казалі, што Станіслаўскі прынукае сваіх вучняў: "Умейце ў кожнай рэчы знайсьці ня горшае, а лепшае".*

*Чуткі мастак бачыць, што вялікая большасьць з нас мае ўцеху служыць культу горшага, ня ўмеючы падысьці да ўсяго, што адорвае радасьцю.*

*Мы гатовыя з захапленьнем ганіць тое, што ня любае нам. Колькі часу мы бавімся каля таго, што падалося нам прыкрым.*

*Сустрэча з тым, што нам не даспадобы, спараджае адметныя словы, бліскучыя параўнаньні. Тады бадзёрая ў нас гамана і энэргічныя рухі. І яскравяцца вочы нашыя.*

*Але затое як запаволена сумна мы прамаўляем словы ўхваленьня і ласкі. Як баімося мы адшукаць і прызнаць. Увесь запас добрых словаў робіцца бедны й звыклы. І затухаюць вочы.*

*Удалося дазнаць аднаго аматара жывапісу. Хадзіў за ім з гадзіньнікам. Неўзаметку пазначаў час, які ён бавіў каля палотнаў. Як высьветлілася, перад карцінамі няўхваленымі было прабаўлена часу ажно ўдвая больш, чым каля рэчаў ухваленых.*

*Ня мелася патрэбы глядзець на тое няўкорнае, што, здавалася, выпраменьвала радасьць; трэба было патраціцца на дакор.*

*"Цяпер я ведаю, чым вас завабіць... Трэба акружыць вас рэчамі ненавіснымі".*

*Мы, славяне, асабліва завінаваціліся ў шматслоўным выгавораньні блажэйшага. У Еўропе ўжо схіляюцца да замоўчваньня злога.*

*Калі нешта заўважылі кепскае, яно ня вартае таго, каб вы на ім засяроджваліся... Жыцьцё аж залішне прыгожае, дужа вялікае, каб забруджваць сябе відовішчам непрыстойным.*

*Праз меру шмат радаснага, вартага ўвагі й добразычлівай адзнакі. Трэба зьведваць узьнёсласьць і радасьць.*

*Трэба ведаць, што нашаму "я" анішто ня можа зашкодзіць. Супыняючыся перад благім, мы ў сябе забіраем хвіліну радасьці і асалоды. Супыняемся замест кроку наперад.*

*Вучыцца радасьці, вучыцца бачыць адно толькі ўзьнёслае і дасканалае! Калі мы запарушылі вочы і словы нашыя, дык трэба вучыцца, як іх ачысьціць! Вучыцца як мага пастрымаць сябе ад зносінаў з тым, што не палюбілася.*

*І ў нас жыцьцё разьвінецца. І нам ня будзе калі прыглядацца да нягожага. Адыйдзе вясёлая зльга.*

*І праглянецца ў нас вока добрае.*

1913

Пераклад з рускай В. Д.

# Трэба жыць, і трэба садзіць лес

***Уладзя Ляская***

Чалавек спажывае за дзень 360 літраў кіслароду, калі нічога ня робіць. Калі працуе завіхаючыся — 700 альбо 900 літраў.

Але ўсё гэта й знаку ня мае ў параўнаньні, напрыклад, зь легкавіком-аўтамабілем. Прабягаючы тысячу вёрстаў, ён зьядае столькі кіслароду, колькі чалавеку хапае на год.

А цяпер перавядзём позірк зь легкавіка на сталае дрэва. За суткі яно выпрацоўвае да 180 літраў кіслароду.

Азірнуўшыся навокал ды не паленаваўшыся зрабіць сякія-такія падрахункі, лёгка пераканацца, што лес, як мала што іншае, заслугоўвае нашай пашаны, любові й аховы.

Дадайце сюды і той факт, што на долю лясоў прыпадае ўсяго 8 адсоткаў паверхні Зямлі; што насельніцтва планеты "прырастае", а лясоў становіцца менш і менш; што забруджваньне навакольнага асяроддзя адходамі прамысловай вытворчасьці і транспарту мае тэндэнцыю да няўхільнага росту.

Ці ёсьць выйсьце? Ёсьць. Напрыклад, садзіць лес.

У Беларусі, на думку сьпецыялістаў, можна, як кажуць, не шукаючы знайсьці тысячы гектараў прыдатных плошчаў. Справа ня марная: лес — гэта ЛЕС.



# БЕЛАЯ ВЕЖА

WHITE TOWER



## Акцэнт

### БЕДНЫЯ НАШЫ ДЗЕЦІ АДПАКУТУЮЦЬ ПЕРШЫЯ

Забруджанае паветра куды больш узьдзейнічае на дзяцей, чым на дарослых. Трапляючы пад розныя віды й высокія ўзроўні брудных выкідаў, дзеці церпяць найперш. А тыя зь іх, якія жывуць у гарадах з павышаным узроўнем забруджанасьці паветра, маюць меншы аб'ём лёгкіх, часьцей прапускаюць школу й часьцей трапляюць на бальнічны ложак. Пра гэта сьведчаць шматлікія дасьледаваньні вучоных, статыстыка.

Прычыны ў лёгкай вазе дзіцяці, а таксама ў кволых дзіцячых органах, якія знаходзяцца ў стадыі свайго разьвіцьця. Гэтую небясьпеку падвышаюць прывычкі дзяцей: немаўляты без перабору смокчуць забруджаныя прадметы, а старэйшыя гуляюць на вуліцах, дзе паветра атручана выхлапнымі газамі, у якіх поўна свінцу. *Крыніца: Кэрціс Мур. Экалагічны даклад. Якасьць гарадзкога паветра.*

## Праз Беларусь

### ЦІ НАДЗЕЙНАЕ СІТА CITES?

У слынным рэестры Канвенцыі аб міжнародным гандлі відамі дзікай флоры й фауны, якія знаходзяцца пад пагрозаю зьнікненьня (CITES), каля 100 відаў жывёл і расьлінаў маюць беларускую прапіску.

За больш як 22 гады пасьля падпісаньня (3 сакавіка 1973, Вашынгтон) CITES паяднала намаганьні блізу 130 дзяржаваў сьвету. У 1976 годзе да Канвенцыі далучыўся Савецкі Саюз. БССР тады згодна з маскоўскаю пастановаю ажыцьцяўляла адпаведныя "мерапрыемствы па выкананьні" прынятых абавязацельстваў; прэрагатыва ж "рэгуляваньня" ў гэтай галіне належала былому саюзнаму прыродаахоўнаму ведамству — Дзяржкампрыродзе СССР.

Пры канцы 1994 года Рэспубліка Беларусь толькі прымерала абавязкі CITES фактам ратыфікацыі Канвенцыі. Механізм рэалізацыі яе палажэньняў мусіць быць яшчэ дэталёва распрацаваны і ўзгоднены паміж рознымі міністэрствамі і ўстановамі краіны. Празьмерная камерцыйная эксплуатацыя рэштак прыроды і стане для іх, у той альбо іншай меры, аб'ектам процідзеяньня. Ці будзе яно эфектыўнае? На гэтае пытаньне наўрад ці хто сёньня пэўна адкажа. Праз Беларусь пралягаюць шматлікія міжнародныя транспартныя шляхі, а тым часам паводле зьвестак Сакратарыята CITES попыт на прадстаўнікоў дзікай флоры і фаўны, іхныя чучалы, часткі альбо дэрываты (вытворнае ад іх) штогод узрастае, даходы гэтае дзейнасьці займаюць трэцяе месца ў сьвеце пасьля гандлю зброяй ды наркотыкамі.

"Дагэтуль сябрамі CITES зь ліку дзяржаваў былога Саюзу зьяўляліся Расейская Федэрацыя ды Эстонія, — сказаў у інтэрв'ю БП прадстаўнік Сакратарыяту CITES спадар Топкаў, які наведаўся ў Менск. — Але мы будзем дамагацца, каб да нас прыйшлі ўсе краіны гэтага рэгіёну. Беларусь яшчэ не падала неабходных дакументаў аб ратыфікацыі ўраду Швэйцарыі, таму я не магу павіншаваць чытачоў вашай газеты з далучэньнем Беларусі да адной з найстарэйшых экалагічных канвенцый. Спадзяюся, гэта здарыцца неўзабаве.

Мушу зазначыць, што наша Канвенцыя досыць складаная, яна кантралюе міжнародны гандаль 39-цю тысячамі відаў дзікае флоры і фаўны. Уявіце, рогі насарога, у якасьці лекі, — гэта ўсяго 100 грамаў пылу. Паспрабуй распазнай. Такое магчыма адно што на грунце папярэдняе інфармацыі спецслужбаў, Інтэрпола, якія маюць тут вялікі досьвед. Увогуле, праблема паляўнічых трафеяў — адна з самых складаных і клопатных.

Далучэньне краінаў СНД да Канвенцыі, — падкрэсьліў пры канцы інтэрв'ю сп. Топкаў, — дазволіць не толькі забясьпечыць лепшы кантроль межаў, але з боку Сакратарыяту аказваць новым удзельнікам патрэбную дапамогу, як тэхнічную, так і метадычную".

Канвенцыя, пры ўмове дзейных механізмаў выкананьня яе патрабаваньняў, дасьць магчымасьць Беларусі лепш бараніць і сваю ўласную біялагічную разнастайнасьць, а калі зьявіцца неабходнасьць, — дык і ўнесьці ў яе рэестр тых прадстаўнікоў дзікай прыроды, зьнікненьню якіх у нашай краіне можа пагражаць міжнародны гандаль. *Уласная інфармацыя.*

## Прызнаньне

### ЗНАЎЦЫ З РАДЫ ЕЎРОПЫ СКАЗАЛІ "ДОБРА"

Нацыянальны парк "Белавежская пушча" наведалі знаўцы Рады Еўропы (Страсбург, Францыя) Магелон Дэжан-Понсі, Мігуэль Кастравіеха Балівар зь вялікай праграмай на замер прысваеньня Пушчы Еўрапейскага Дыплома. Адбыліся сустрэчы й нарады з адміністрацыяй, навуковым аддзелам, іншымі службамі Парку, кіраўнікамі экалагічных райінспекцыяў, дырэктарам мясцовай Камянюкскай школы, сябрамі прыродаахоўных таварыстваў, турыстычных ды іншых грамадскіх груп.

Знаўцы пазнаёміліся з структурай Парку, станам прыродных комплексаў, дзейнасьцю гаспадарчых службаў. Завіталі ў Музей прыроды, паглядзелі гасьцінічны сэрвіс. Замежных гасьцей цікавілі розныя бакі дзейнасьці Парку: прыродаахоўная палітыка ў краіне, стан і перспектывы разьвіцьця сістэмы прыродных тэрыторыяў, што знаходзяцца пад асаблівай аховаю, фрагменты заканадаўства, пастаноўка навуковых дасьледаваньняў, стаўленьне мясцовага насельніцтва да запаведных мясьцінаў.

Шмат увагі было скіравана ў бок праблем, вырашэньне якіх залежыць таксама ад намаганьняў міжнародных фондаў і арганізацыяў. Зьвернута ўвага на разьвіцьцё экалагічнага турызму, на неабходнасьць шырокай рэкламы Парку з дапамогай Рады Еўропы.

Знаўцы далі высокую ацэнку захаванасьці прыроднага комплексу, казалі пра ягоную непаўторную адметнасьць, адзначылі карпатлівую працу супрацоўнікаў Пушчы па яе вывучэньню й ахове.

Падрыхтаваныя матар'ялы маюць быць разгледжаныя ў лютым-сакавіку на паседжаньні Групы знаўцаў па ахоўных тэрыторыях, а затым Кабінет міністраў Еўропы прыме рашэньне аб прысуджэньні Белавежскай пушчы Еўрапейскага Дыплома. *Крыніца: Управа ахоўных тэрыторыяў, лясной і сельскай гаспадаркі Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (начальнік Аляксандр Лучкоў).*

## Клімат

### ФОТАЗДЫМКІ, ЯКІЯ ПРЫАДЧЫНЯЦЬ ТАЙНУ "ПАРНІКОВАГА ЭФЕКТУ"

Яны былі зроблены амерыканскімі разведслужбамі на піку халоднай вайны з былым Савецкім Саюзам. Апроч фатаграфаваньня абаронных савецкіх аб'ектаў агенцтвы зьбіралі фотаматар'ялы й пра іншыя рэгіёны сьвету дзеля таго, каб у складаньне картаў і схем дапусьціць як менш памылак.

Усяго будзе апублікавана 860 тысяч фатаграфіяў розных фрагментаў зямнога шара.

Вучоныя зь нецярплівасьцю чакаюць іх публікацыі; на іх думку, фотаздымкі дазволяць папоўніць веды пра характар выкарыстаньня зямлі, пра таўшчыню сьнежнага покрыва, пра тэмпературу акіяна. Надзвычай каштоўнаю мае быць інфармацыя пра тэмпы і характар эрозіі глебы, абязьлесеньня й апустыньваньня, пра характар выпадзеньня дажджоў.

Ці праўда, што так званыя парніковыя газы, якія зьяўляюцца пабочным прадуктам індустрыяльных працэсаў, награюць Зямлю і сур'ёзна ўплываюць на клімат, — адно з галоўных пытаньняў у сувязі з публікацыяй фотаздымкаў, здольных пашырыць рэтраспектыўную базу зьвестак і ўдакладніць прагнозы альбо выявіць іхную памылковасьць. Бо, як вядома, сьпецыялісты ўжо гадоў пяць папярэджваюць пра магчымае павышэньне тэмпературы, якое можа ў наступным стагоддзі зьмяніць характар выпадзеньня дажджоў, а таксама карту папуляцыяў расьлін і жывёл на планеце.

"Шпіёнскія" здымкі, паводле якіх можна будзе паглыбіцца ў вывучэньне працэсаў зьмен на Зямлі, разьведслужбы мяркуюць паказаць "на сьвятло" ў бліжэйшыя паўтара года. *Крыніца: прэсавы рэліз службы інфармацыі амерыканскай амбасады ў Мінску.*

## Варта ўспомніць!..

### ...ЧАМУ БРЫЖЫТ БАРДО АБВЯСЬЦІЛА ВАЙНУ НЯ МЕНШ ПАПУЛЯРНАЙ ЗОРЦЫ КІНО

Саперніцай Брыжыт стала Сафі Ларэн, якая падпісала мільённую ўмову на рэкламу знакамітае фірмы "Анабела", што шые дарагія ўборы з натуральнага футра. Брыжыт (апошнія гады яна аддае сябе абароне жывёлаў) абвінаваціла калегу ў тым, што тая "сьвядома заступіла на бок сьмерці".

"Вы далі згоду прадаць сваё імя й свой імідж для самай ганебнай рэкламы, — зьвярнулася ў адкрытым лісьце Брыжыт Бардо. — Не забывайцеся: насіць футра — значыць на сваіх плячах насіць цэлае гробішча. Вы ўключыліся ў паганы бізнес, закладзены з пакутаў і крыві соцень тысяч жывёлаў".

Выкарыстаньне вобраза знакамітай актрысы для рэкламы футравых строяў прымусіла вынесьці свой прысуд таксама італійскіх заступнікаў жывёлы. "Сіньёра Ларэн, Вы цяпер будзеце мець самае непасрэднае дачыненьне да злачыннай індустрыі, для патрэбаў якой пазбаўляюцца жыцьцяў мільёны жывёлаў. Многіх зь іх гадуюць у няволі, каб затым атруціць якім газам альбо забіць электрычным токам", — гаворыцца ў звароце нацыянальнай лігі абароны жывёлаў.

Італійскія "зялёныя" нагадваюць таксама, што "самыя прыгожыя жанчыны ў сьвеце, тым ліку Кім Бесіджэр і знакамітая фатамадэль Наомі Кэмпбел, дэманстравалі чароўнасьці свайго цела, каб выказаць пратэст супраць забойства жывёлаў". Фота гэтых прыгажуняў насамрэч былі скарыстаныя ў кампаніі пад лозунгам "Чым у футры — лепш безь нічога!" *Крыніца: беларускі й замежны друк.* ■

## Крыжаслоў

***Склаў Пётр Шыцік (Мінск)***
***Вядучая Уладзя Ляская***

Гэта першы крыжаслоў, які зьмяшчае наша газета. Будзем рады, калі атрымаем ад вас, паважаныя чытачы, лісты з правільнымі адказамі. Прозьвішчы лепшых аўтараў надрукуем. Сярод іх назавём і пераможцаў, праўда, у тым выпадку, калі правільныя адказы будуць дапоўненыя ці нейкай цікавай інфармацыяй на прыродалюбныя тэмы, ці фотаздымкамі, ці асабістым уражаньнем-водгукам (маленькім літаратурным творам) на любое слова крыжаванкі — такая ўмова нашага конкурсу. Пераможцы (іх будзе пяць) першымі атрымаюць бясплатна наступны нумар "Белавежскай пушчы". ■




***Па гарызанталі:***

**5.** Пералётная птушка зь яркім зелянцава–блакітным пер'ем. **6.** Рачная рыба з сям'і карпавых. **7.** Паўднёвая земнаводная расьліна з буйнымі кветкамі. **10.** Дэкаратыўная расьліна з сям'і верасовых. **11.** Вадзяны зьвярок з каштоўным футрам. **14.** Зацішнае маляўнічае мейсца. **15.** Вядомы Карэльскі запаведнік. **16.** Бруісты вадзяны паток. **17.** Лісьцевае дрэва. **18.** Пеўчая птаха з сям'і ўгоркавых. **21.** Цёплы, лёгкі ветрык. **23.** Млекакормячая жывёліна з сям'і аленевых. **26.** Бяскрылая мошка–паразіт. **27.** Цукрысты сок з кветак меданосных расьлінаў. **28.** Дрэва з сям'і вярбовых. **29.** Частка года. **30.** Неабсяжная прастора. **31.** Пеўчая птушка з сям'і драздовых.

***Па вертыкалі:***

**1.** Навука пра заканамернасьці разьвіцьця жывёльнага й расьліннага сьвету. **2.** Палявыя кветкі блакітнага альбо цёмна–сіняга колеру. **3.** Раньняя веснавая кветка. **4.** Каштоўны камень зелянцава–блакітнага колеру. **8.** Дзялянка з насаджэньнямі, прызначаная для адпачынку. **9.** Лясны бык з сям'і пустарогіх. **12.** Афарбоўка неба пры ўзыходзе сонца; таксама: колер твару. **13.** Дрэва ці высокі куст з сям'і ружакветных. **19.** Невялікі лес, аддзелены полем. **20.** Птушка з сям'і цецяруковых і фазанавых. **22.** Прыродны вадаём. **24.** Дрэва ці кустоўе з сям'і араліевых з сакавітымі пляскатымі пладамі. **25.** Рэдкі гатунак сакавітых салодкіх ігруш. **26.** Мейсца для пераходу рэчкі ці возера. ■

# ДЗЕНЬ ЗЯМЛІ

## THE DAY OF THE EARTH

Народны каляндар беларусаў заўсёды быў шчодры на дні, калі чалавек мог унутрана ўсьміхнуцца, не шкадуючы слоў падзякаваць зямлю і сонца за іхную памыснасьць. Але апошнім часам паміж нас, хто жыве на планеце, нараджаецца сьвята, замену якому наўрад ці магчыма знайсьці ў самым дзівосным прыродалюбным календары.

Сьвята было названае Днём Зямлі. Сёньня, на 26-м годзе, яно адзначаецца не адно на радзіме ў ЗША, але ў Кітаі і Перу, Расіі й Германіі, Індыі і Японіі (да руху далучыліся больш як 140 дзяржаваў). На Беларусі голас гэтага сьвята яшчэ досыць кволы, але ўжо чуваць-прабіваецца кшталту ручаёвай вадзіцы пад сьнегам. Прыклаўшы вуха — пачуеш: пра яго ўжо ведаюць у шматлікіх недзяржаўных структурах, у школах, студэнцкіх калектывах, у шэрагу руплівцаў-прыродазаступнікаў Беларусі. Прыкладам, калі вярстаўся нумар, у фаніпальскай школе пад Мінскам педагог Людміла Калоша дала адкрыты ўрок да Дня Зямлі-96. Гэтым самым рахунак сьвята папоўніўся яшчэ адным, новым радком. Варта сёе-тое ўзгадаць зь мінулых гадоў. У сьпісе зьдзейсьненых справаў ды імпрэзаў — "зялёныя дэсанты" з прыбіраньнем двароў, берагоў, рэчышчаў; пасадка дрэў, лясных урочышчаў, алей, паркаў; вырошчваньне расады кветкавых дэкаратыўных расьлін; прагляд кінафільмаў "зялёнай" тэматыкі, штудзіраваньне адпаведнага заканадаўства й нарматыўных актаў; летапіс навакольных маляўнічых куткоў; закладка бібліятэчак; канцэрты, мітынгі, круглыя сталы, дыскатэкі...

У ЗША адзначаўся цэлы Тыдзень Зямлі, ягоны каляндар зьмяшчаў і Дзень захаваньня энэргіі, і Дзень без адходаў, і Дзень транспарту, калі людзі пакідалі свае аўто і ўключалі ўласныя мышцы — рушылі на працу ці ў краму пешшу альбо на ровары. Экалагічныя пытаньні закраналіся ў казаньнях сьвятароў. Найбольш пашыранай акцыяй была пасадка дрэваў. У Ірданіі іх садзілі ў гонар нованароджаных. У суседняй Польшчы на цырымонію прыбыў папа Рымскі Ян Павел II і пасадзіў сваё дрэва.

Летась, калі Дзень Зямлі адзначаўся 25-ты раз, ягоны заснавальнік Гейлард Нэльсан (былы заканадаўца, а затым губернатар і сябра Сенату ЗША) патрапіў у лік дванаццаці амерыканцаў, ганараваных вышэйшай грамадзянскай узнагародай — прэзідэнцкім Медалём свабоды.

Прапанаваўшы штогод адзначаць Дзень Зямлі, Нэльсан заклікаў суайчыньнікаў пашыраць веды аб прыродных рэсурсах, зь вялікай адказнасьцю пастаўляцца да стану здароўя ўсяе планеты, выхоўваць маладое пакаленьне на прынцыпах прыродаахоўнай этыкі.

"Найважкі ўнёсак у гісторыю Амерыкі", які зрабіў Нэльсан, можна лічыць бясспрэчным не адно для гэтай краіны, але й для іншых дзяржаваў, дзе сьвята зрабілася сваім, абагацілася ўласным нацыянальным досьведам.

Сёлета Дзень Зямлі мяркуецца ладзіць у межах тыдня (17 — 24 красавіка); найбольш масавым днём правядзеньня акцый мае стаць субота 20 красавіка.

П а с а д з і м  д р э в а  ж ы ц ь ц я!

Зялёнае агенцтва "Нэруш-прэс"

Для кантактаў: (0172) 36-50-76.

**Мы, людзі, "асуджаныя" быць прыродазаступнікамі, бо асаблівасьцю разумнасьці была й застаецца любоў да прыроды, невычарпальнасьць сяброўскага пачуцьця да яе.**

Дзень Зямлі - выдатная магчымасьць выявіць і пацьвердзіць нашае стаўленьне да прыроды, менавіта - дапамагчы ёй.

Гэта дзень канкрэтных дзеяньняў у абарону навакольнага асяродзя, на карысьць адраджэньня зялёных куткоў Беларусі.

Спарадкаваць, пабудаваць, падмесьці, вывезьці, ачысьціць, пасадзіць... Гэтыя галоўныя дзеясловы Дня павінны як мага ўвасобіцца ў справу, матэрыялізавацца, сілай дзеяньня "ажывіць" аблічча нашых сялібаў - двароў і вуліц, ваколіц і берагоў, лясоў і ўрочышчаў.

Гэта дзень і нашай агульнай духоўнай патужнасьці, калі мы разам выказваем занепакоенасьць станам навакольнага асяродзя, асэнсоўваючы яго, ставім патрабаваньні перад дзяржавай і яе кіраўніцтвам.

Маці-Зямля з ласкай прыме дар нашых сэрцаў і рук, аддзячыць дзяцей улоньня ўсімі шчадротамі зьяваў прыроды, красой і гармоніяй.

***Газета "Белавежская пушча" ня толькі для тых, хто ўмее чытаць. Наша газета й для тых, хто ўмее пісаць.***

*У ёй будуць друкавацца ўсе, хто хоча заступіцца за дрэва і гай, за балота і лес, за рэчку і луг, за братоў нашых меншых, за спадчыну прадзедаў, за роднае ўлоньне.*

*Пішыце Лісты Сябрам. Лістуйцеся, сябры! Сябруйце — ліставаньнем. Трацьце думкі й пачуцьці, не шкадуйце слоў, выказвайцеся.*

*З другога паўгоддзя рэдакцыя плануе адкрыць свабодную падпіску на газету. Спадзяёмся на падтрымку з боку першых чытачоў.*

*У наступным, трэцім нумары газеты вы зноў з а в і т а е ц е  ў Белавежскую Пушчу, а д ч у е ц е  вясновы шум беларускай прыроды;*

*п р а ч ы т а е ц е  маналог настаўніка, поўны шчырага неспакою і чалавечага досьведу за цяперашні стан беларускага лесу;*

*ад спрактыкаванага знаўцы  з а й м е е ц е  шэраг рэкамендацыяў, як садзіць лес, лясныя культуры; тым часам газета раскажа пра чалавека, які пасадзіў лес у розных кутках Еўропы;*

*вокам натураліста Уладзімера Іваноўскага п а н а з і р а е ц е  за экзатычнымі эпізодамі з жыцьця балотнага шуляка;*

*п а з н а ё м і ц е с я  з новым аўтарам, археолагам Алай Кваткоўскай і яе навуковым амплуа — пошукам яцьвяжскіх сьлядоў на іхных геаграфічных абсягах;*

*разам зь біёлагам Уладзімерам Галубковым р а з г а д а е ц е  таямніцы дрэў, здольных сілкаваць нас гаючай энэргіяй.*

***Вас гасьцінна сустрэнуць рубрыкі "Тут", "Patriotica", "Па-над межамі", "Ніша", "Твой востраў", "Глабальная экалогія" ды іншыя.***






Зубр, як мы лічым спрадвеку, хоць зьвер, але ратнік.
Ён прызнае перамогу, здабытую чэсна –
Сілай на сілу, уражкі, і мужнасьць на мужнасьць...

*Nikolai Hussoviani.*
*Carmen de statura feritate*
*ac venatione Bisontis.*
*1522.*

Лічаць, што рыцар пушчанскі адправіцца ў прочкі
З тых запаветных урочышчаў, дзе ў паядынках
Зь ім сустракалася часта ня дужасьць, а хітрасьць...

*Мікола Гусоўскі.*
*Песьня пра зубра.*
*Пераклад Я. Семяжона.*
*1980.*

*На ўспамін:* **1996**

* Вяртаньне на Беларусь сапраўднай зімы — з маразамі ды сьнегам.
* Год вялікай вады. Дасьць Бог — і памыснай вясны, і пяшчотнага лета.
* Дзясяты год пасьля Чарнобыля.

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Травень | Чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| А | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| С | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| Ч | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| П | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| С | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| Н | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |


Зь любоўю да блізкіх **БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА** 1996 №2

*Заснавальнік і рэдактар*
*Валерый Дранчук*

- *прыродалюбная асьветна-публіцыстычная беларуская газета*
- *выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"*
- *год выданьня другі, 1996 №2*
- *рэгістрацыйны нумар 1096, наклад 5000 асобнікаў, кошт дамоўны*

*Вёрстка: Вольга Вайніловіч.*
*Набор: Ірына Антонава.*
*Афармленьне, макет: Валерый Дранчук.*
*Падпісана ў друк 28.02.96. Замова*
*Набыць газету заўсёды можна на сядзібе Нацыянальнага парку "Белавежская пушча". Пры перадруку спасылка на газету абавязковая.*

*Рэдакцыя пакідае за аўтарамі магчымасьць вольна выказваць свае думкі й меркаваньні, роўна як і несьці адказнасьць за дакладнасьць і праўдзівасьць пададзеных зьвестак.*

КААПЕКА - 96

*Калі вы заможны чалавек і вам падабаецца газета "Белавежская пушча", вы можаце ахвяраваць на яе магчымыя сродкі. Ваша апека — заўсёды ў пашане.*

"BIELOVEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusian Nature-Loving Newspaper. Motto: 'With Love to Lap' Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH-PRESS"
Contact: 220083 MINSK Ivanovskaya Ul. 38-15 Phone 365076